Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА.



# БЮЛЕТЭНЬ

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ

## БЕЛАРУСКАЕ ССР.

19 МАЙ 1928 г.

№ 5 (48).

IV-ы год ВЫДАНЬНЯ.

ВЫДАНЬНЕ КІРАЎНІЦТВА
СПРАЎ СНК І ЭКАНАМІЧНАЙ
НАРАДЫ БССР
МЕНСК—1928 г.

Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА.

# БЮЛЕТЭНЬ

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР.

19 МАЙ 1928 г.

№ 5 (48).

IV-ы год ВЫДАНЬНЯ.

ВЫДАНЬНЕ КІРАЎНІЦТВА СПРАЎ СНК І ЭКАНАМІЧНАЙ НАРАДЫ БССР

МЕНСК—1928 г.

# ЗЬМЕСТ.

## *Частка афіцыйная.*

## 1. Пастанова Эканамічнай Нарады пры Савеце Народных Камісараў БССР

ПРА ЎЗГАДНЕНЬНЕ ПЛЯНАЎ ГЕАЛЁГІЧНЫХ РАБОТ.

Эканамічная Нарада пры СНК БССР пастанаўляе:

1. Усе дзяржаўныя ўстановы і прадпрыемствы БССР рэспубліканскага і мясцовага значэньня, падаючы на зацьверджаньне свае каштарысы і прамыслова-фінансавыя пляны, калі гэтыя каштарысы і пляны прадугледжваюць правядзеньне геалёгічных або геалёгічна-дасьледчых работ, павінны разам падаваць і дакумэнты, якія сьведчаць узгодненасьць плянаў гэтых работ з Геалёгічным Камітэтам Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі СССР.

Пляны работ павінны падавацца не пазьней 1-га красавіка беспасрэдна ў Вышэйшы Савет Народнай Гаспадаркі БССР для ўзгадненьня з Геалёгічным Камітэтам.

*Увага.* У бягучым 1927-28 аперацыйным годзе пляны павінны падавацца не пазьней 1-га ліпеня.

2. Вышэйшы Савет Народнай Гаспадаркі БССР павінен не пазьней двух месяцаў ад дня атрыманьня паказаных у п. 1 гэтай пастановы плянаў паведаміць зацікаўленым ведамствам заключэньне Геалёагічнага Камітэту аб геалёгічных і геалёгічна-дасьледчых работах, прадугледжаных у іх плянах.

3. Усе ўстановы і прадпрыемствы агульна-саюзнага значэньня да распачацьця геалёгічных або геалёгічна-дасьледчых работ аб распачацьці іх павінны паведамляць Вышэйшы Савет Народнай Гаспадаркі БССР.

Старшыня Эканамічнай Нарады пры СНК БССР **М. Карклін.**

Нам. Кіраўніка Спраў СНК і Эканамічнай Нарады БССР **В. Крывіцкі.**

23 красавіка 1928 г.

---

## 2. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

ПРА РАБОТНІКАЎ З НЕНАРМАВАНЫМ РАБОЧЫМ ДНЁМ.

Для разьвіцьця пастановы Н.К. Працы СССР за 13 лютага 1928 г. № 106 „О работниках с ненормированным рабочим днем“ („Известия Народного Комиссариата Труда СССР“ 1928 г., № 9/10) Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

I. Зацьвердзіць наступны сьпіс работнікаў з ненармаваным рабочым днём ва ўстановах, што знаходзяцца на дзяржаўным і мясцовым бюджэце:

## I. Адміністрацыйны пэрсанал:

1. Загадчык установы, прадпрыемства і іх намесьнікі.
2. Загадчык аддзелу.
3. Памочнік загадчыка аддзелу.
4. Загадчык п/аддзелу, часткі, сэкцыі.
5. Упаўнаважаны.
6. Адказны сакратар.
7. Рэктар.
8. Прарэктар.
9. Старшыні і члены кіраўніцтваў і камісій.

## II. Арганізацыйна-інструктарска-інспэктарскі пэрсанал:

10. Ст. Інспэктар.
11. Інспэктар.
12. Памочнік Фін. Інспэктара (у раёне).
13. Інструктар.
14. Ст. Рэвізор.
15. Рэвізор.

## III. Плянава-Кансультацыйны пэрсанал:

16. Інжынэр.
17. Кансультант.
18. Юрысконсульт.
19. Эканаміст.
20. Навуковы працаўнік.
21. Вучоны сакратар.

## IV. Канцылярска-справаводчы пэрсанал:

22. Сакратар народнага камісарыяту.
23. Сакратар сталай камісіі.

## V. Рахункова-кнігаводчы і фінансавы пэрсанал:

24. Галоўны бухгальтэр.
25. Ст. Бухгальтэр.
26. Бухгальтэр установы (які працуе самастойна).
27. Кантралёр.
28. Ст. скарбнік.
29. Фінансавы агэнт.

## VI. Гаспадарча-абслугоўваючы пэрсанал:

30. Загадчык гаспадаркі.
31. Загадчык складу.
32. Камэндант установы.
33. Дворнік.

## VII. Культурна-асьветны пэрсанал:

34. Дэкан.
35. Намесьнік дэкана.
36. Загадчык вучэбнай часткі.
37. Рэдактар.

VIII. Сельска-гаспадарчы пэрсанал:

38. Аграном (акруговы і раённы).
39. Памочнік акруговага агранома.
40. Каморнік (што працуе ў апараце).
41. Лясьнічы і яго памочнік.
42. Мэліаратар (што працуе ў апараце).
43. Торпмэйстар.
44. Аб'ездчык.
45. Лясьнік.

IX. Судова-пракурорскі пэрсанал:

46. Пракурор (раённы)
47. Судовы выканавец.

X. Розныя:

48. Тэхнік.
49. Прабірэр.

II. Установы па згодзе з прафэсіянальнымі саюзамі павінны распрацаваць падрабязны пералік абавязкаў і разьмеркаваньне рабочага часу асоб, паказаных у арт. 1-м гэтай пастановы.

III. Рабочы дзень адказных палітычных работнікаў, работнікаў міліцыі, месц зьняволеньня, работнікаў асьветы, лекава-санітарных і вэтэрынарных установ вызначаецца паводле адпаведных існуючых палажэньняў.

IV. Сьпіс работнікаў з ненармаваным рабочым днём ва ўстановах, што знаходзяцца на гаспадарчым разрахунку, у якіх будзе устаноўлена дзяржаўнае нармаваньне заработнай платы, устанаўляецца органамі Народнага Камісарыяту Працы пры ўстанаўленьні нармаваных ставак.

V. Гэтая пастанова ўводзіцца ў сілу з дня апублікаваньня і ня можа быць падставаю для перарахункаў за мінулы час.

Народны Камісар Працы БССР **К. Бэнэк.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Працы БССР **А. Круглік.**

11 красавіка 1928 г.
№ 21.

---

## 3. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

ПРА ЎВЯДЗЕНЬНЕ Ў СІЛУ НА ТЭРЫТОРЫІ БССР АБАВЯЗКОВАЙ ПАСТАНОВЫ Н. К. ПРАЦЫ СССР ЗА 22 САКАВІКА 1928 г. № 175 „ВРЕМЕННЫЕ ПРАВІЛА О ЖИЛИЩНЫХ УСЛОВИЯХ НА ЛЕСОЗАГОТОВИТЕЛЬНЫХ И СПЛАВНЫХ РАБОТАХ".

Народны Камісарыят Працы БССР, на падставе арт. 47 абавязковай пастановы Н. К. Працы СССР за 22 сакавіка 1928 г. № 175 „Временные правила о жилищных условиях на лесозаготовительных и сплавных работах" (Газэта „Труд" за 5 красавіка 1928 г.) пастанаўляе ўвесьці ў сілу паказаную вышэй абавязковую пастанову на тэрыторыі БССР.

Народны Камісар Працы БССР **К. Бэнэк.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Працы БССР **А. Круглік.**

12 красавіка 1928 г.
№ 22

---

## 4. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

ПРА ПАРАДАК РЭГІСТРАЦЫІ КАЛЯКТЫЎНЫХ ДАГАВОРАЎ.

Для разьвіцьця пастановы Н. К. Працы Саюзу ССР за 15 лютага 1928 г., № 108, „О порядке регистрации коллективных договоров“(„Известия Народного Комиссариата Труда СССР“ 1928 г., № 9/10), Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. Каляктыўныя дагаворы, якія заключаюцца цэнтральнымі кіраўніцтвамі прафэсіянальных саюзаў, а таксама каляктыўныя дагаворы, якія ахапляюць прадпрыемствы двух альбо больш акруг, рэгіструюцца ў Народным Камісарыяце Працы БССР.

2. Усе іншыя каляктыўныя дагаворы рэгіструюцца ў акруговых інспэкцыях працы па месцы знаходжаньня прафэсіянальнага саюзу, заключыўшага каляктыўны дагавор.

3. Акруговыя інспэкцыі працы перасылаюць ў Народны Камісарыят Працы БССР не пазьней 3 дзён пасьля рэгістрацыі копіі каляктыўных дагавораў, заключаных з усімі прадпрыемствамі, падпарадкаванымі Вышэйшаму Савету Народнай Гаспадаркі БССР, каляктыўных дагавароў, заключаных з прадпрыемствамі мясцовай прамысловасьці, у якіх працуе больш 50 рабочых, а таксама на будаўнічыя работы, на якіх занята больш 50 рабочых.

4. З часу ўвядзеньня ў сілу гэтай пастановы касуецца тлумачэньне Народнага Камісарыяту Працы БССР за 21 сьнежня 1926 г. № 20 „Пра рэгістрацыю каляктыўных дагавораў“.

Народны Камісар Працы БССР **К. Бэнэк.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Працы БССР **А. Круглік.**

18 красавіка 1928 г.
№ 25.

---

## 5. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

ПРА ЎВЯДЗЕНЬНЕ РАЗЬЛІКОВЫХ ВЕДАМАСЬЦЯЙ ДЛЯ АДЗІНОЧАК-БУДАЎНІКОЎ.

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. Разьліковая ведамасьць для падліку заработнай платы і вызначэньня ўмоў працы адзіночак-будаўнікоў зьяўляецца абавязковаю для ўсіх дзяржаўных, каперацыйных, грамадзкіх і прыватных прадпрыемстваў, устаноў і гаспадарак, у якіх заняты будаўнікі-адзіночкі.

2. Разьліковыя ведамасьці не выдаюцца рабочым, занятым на работах, якія вядуцца будаўнічымі арганізацыямі (Беларускі Будаўнічы Трэст, будаўнічыя камісіі ваеннага ведамства і інш.); гэтыя арганізацыі павінны выдаваць занятым у іх на працы асобам разьліковыя кніжкі, паводле існуючага аб гэтым пытаньні палажэньня.

*Увага.* Сумы, выплачаныя рабочым, якія прапрацавалі ў паказаных у арт. 2 арганізацыях менш аднаго тыдня, запісваюцца ў разьліковую ведамасьць.

3. Запаўняючы разьліковую ведамасьць, кожны наймальнік павінен поўнасьцю і дакладна паказваць у адпаведных графах усе ўмовы працы—тэрмін работы, назву і адрэс наймальніка і інш.

Вінаватыя ў няправільным запаўненьні разьліковых ведамасьцяй прыцягваюцца да адміністрацыйнай альбо судовай адказнасьці.

Народны Камісар Працы БССР **К. Бэнэк.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Працы БССР **А. Круглік.**

20 красавіка 1928 г.
№ 27.

---

## 6. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

ПРА ПАРАДАК ПЕРАВОДУ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ НА 7-МІ ГАДЗІННЫ РАБОЧЫ ДЗЕНЬ.

Для разьвіцьця пастаноў СНК СССР за 17 студзеня 1928 г. „Пра падрыхтоўку ўвядзеньня 7-мі гадзіннага рабочага дня“ (З. З. СССР 1928 г., № 8, арт. 72) і за 2 сакавіка 1928 г. „Пра дапаўненьне пастановы СНК СССР за 17 студзеня 1928 г. „Пра падрыхтоўку ўвядзеньня 7-мі гадзіннага рабочага дня“ (З. З. СССР 1928 г., № 16, арт. 139) Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. Перавод прадпрыемстваў на 7-мі гадзінны рабочы дзень дазваляецца толькі паводле дазволу Урадавай Камісіі, складзенай пастановай СНК СССР (З. З. СССР 1927 г., № 65, арт. 662).

2. Хадайніцтвы аб пераводзе прадпрыемстааў на 7-мі гадзінны рабочы дзень павінны падавацца прафэсіянальнымі саюзамі і гаспадарчымі органамі праз Народны Камісарыят Працы БССР.

Народны Камісар Працы БССР **К. Бэнэк.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Працы БССР **А. Круглік.**

24 красавіка 1928 г.
№ 29.

---

*Узгоднена з ЦСПСБ.*

## 7. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

ПРА ЗЬМЕНУ СВАЕ ПАСТАНОВЫ ЗА 18 СТУДЗЕНЯ 1928 г. № 3 „ПРА РЭВАЛЮЦЫЙНЫЯ СЬВЯТЫ І АСОБЫЯ ДНІ АДПАЧЫНКУ“.

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе ўнесьці наступныя зьмены ў сваю пастанову за 18 студзеня 1928 г., № 3, „Пра рэвалюцыйныя сьвяты і асобныя дні адпачынку“ (Бюлетэнь СНК БССР 1928 г., № 2).

I. Арт. 1 запісаць у наступнай рэдакцыі:

„Забараняецца работа ў наступныя сьвяточныя дні:

а) 1 студзеня—Новы Год і Дзень абвяшчэньня Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі.
б) 22 „ —Дзень 9 студзеня 1905 г. і Дзень памяці У. І. Леніна.
в) 12 сакавіка—Дзень, у які скінута самаўладзтва.
г) 18 „ —Дзень Парыскай Камуны.
д) 1 і 2 мая —Дні Інтэрнацыяналу.
е) 7 і 8 лістапада—Дні Кастрычнікавай Рэвалюцыі.

II. Увагі да арт. 1 пакінуць у старой рэдакцыі.

III. Арт. IV пастановы запісаць у наступнай рэдакцыі:

„Апроч паказаных у арт. 1 сьвяточных дзён, рабочым і служачым даюцца наступныя дні адпачынку:

а) Асобам праваслаўнай веры.

1) Другі дзень вялікадня.
2) Духаў дзень.
3) 6 жніўня—спаса.
4) 15 жніўня—прачыстая.
5-6) 25 і 26 сьнежня—каляды.

б) Асобам каталіцкай веры.

1) Вадохрышча.
2) Божжа цела.
3) 15 жніўня—прачыстая.
4) 1 лістапада—усіх сьвятых.
5) Непакаленнае зачацьце.
6) 25 сьнежня—каляды.

в) Асобам іўдзейскай веры.

1) Першы дзень „пэйсаху“.
2) Апошні дзень „пэйсаху“.
3) Першы дзень „Швуэс“.
4) Першы дзень „рош-гашова“.
5) „Іом-кіпур“.
6) Першы дзень „шукэс“.

*Увага.* Паказаныя у арт. IV гэтай пастановы асобныя дні адпачынку даюцца па новаму стылю.

Народны Камісар Працы БССР **К. Бэнэк.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Працы БССР **А. Круглік.**

24 красавіка 1928 г.
№ 30.

---

## 8. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

ПРА ЛІКВІДАЦЫЮ ЦЭНТРАЛЬНАЙ І АКРУГОВЫХ КАМІСІЙ ПА ВУЧНЁЎСТВУ.

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

Цэнтральную Камісію па вучнёўству пры Народным Комісарыяце працы БССР і камісіі па вучнёўству пры акруговых інспэкцыях Працы ліквідаць; зацьверджанае Народным Камісарыятам Працы БССР 22 красавіка 1925 г. „Палажэньне“ пра паказаныя вышэй камісіі (Бюлетэнь СНК БССР 1925 г., №2) скасаваць.

Народны Камісар Працы БССР **К. Бэнэк.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Працы БССР **А. Круглік.**

5 мая 1928 г.
№ 32.

---

# 9. Выпіс з пратаколу № 23 пасяджэньня Калегіі Народнага Камісарыят, Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі БССР за 12 красавіка 1928 г.

| Разглядалі: | Пастанавілі: |
|---|---|
| 236. Вынікі абсьледваньня становішча працоўнай дысцыпліны ва ўстановах. (п/карта № 11). Дакладчык тов. Бірыла. Прадстаўнікі: Ц.С.П.С.Б, Н. К. Працы БССР і Ц. П. Саюзу савецкіх і гандлёвых служачых. | 236. ПРЫНЯЦЬ НАСТУПНЫЯ ПРАПАНОВЫ: |

**А.** Адзначыць, што:

1) праверка, якая ахапіла 10 цэнтральных установ у г. Менску, да 65 установ акруговага значэньня ў Менскай, Мазырскай, Гомельскай і Бабруйскай акругах і некалькі раёных (Барысаў і інш.), насіла масавы характар, бо да яе былі прыцягнуты рабочыя, работніцы, члены гарадзкіх саветаў, дэлегаткі, члены мясцовых камітэтаў і эканамічных камісій;

2) праверка яўкі паказала даволі значнае спазьненьне супрацоўнікаў (у цэнтральных установах—38 проц., у акруговых—у Менску 51 проц., у Гомелі—14,1 проц., у Бабруйску—40). У некаторых установах процант спазьненьня даходзіць да 80-94 (Менск—Кір. Працоўных Калятываў, Гомель—Акруговая Страхавая Каса). За ранейшы час у некаторых установах наглядалася яшчэ большае спазьненьне (Народны Камісарыят Фінансаў).

3) позьніцца пераважна кіруючы склад, адміністратары і спэцыялісты, часткаю і тэхнічны пэрсанал;

4) інтэнсыўнасьць працы ў час заняткаў не стаіць яшчэ на належнай вышыні. Наглядаюцца адлучкі па няслужбовых справах, праходжваньне, гутаркі і інш. Дамоў, як правіла, адходзяць сваечасова, апроч кіруючага пэрсаналу;

5) лішняй нагрузкі, як правіла, не наглядаецца ва ўстановах. Больш поўная нагрузка наглядаецца ва ўстановах, што перайшлі на функцыянальную сыстэму. Звышмерная работа практыкуецца рэдка і пераважна тычыцца рахунковага і машынапіснага пэрсаналу пры складаньні балянсаў, дакладаў;

6) факты грубых адносін да наведчыкаў зараз зьяўляюцца адзіночнымі, за тое яшчэ даволі шырока наглядаюцца фармальныя адносіны тэхнічнага і часткова кіруючага пэрсаналу да наведчыкаў (Народны Камісарыят Сацыяльнага Забясьпечаньня, Народны Камісарыят Земляробства, Мазыр), калі апошніх перасылаюць з аддзелу ў аддзел, з установы ва ўстанову, суха адказваюць на запытаньні;

| Разглядалі: | Пастанавілі: |
|---|---|
| | 7) хуткасьць выдачы розных даведак, вырашэньня скарг і заяў насельніцтва і праходжаньня спраў яшчэ нездавальняючая, што тлумачыцца недастатковаю ўвагаю да гэтай справы супрацоўнікаў і адміністрацыі, а таксама існуючым парадкам праходжаньня скарг праз лішнія інстанцыі; |
| | 8) узаемаадносіны паміж адміністрацыяю і супрацоўнікамі і сярод апошніх, як правіла, нармальныя, але часам наглядаюцца сямейныя адносіны, якія перашкаджаюць выяўленьню ўсіх недахопаў працоўнай дысцыпліны; |
| | 9) умовы працы ня ўсюды дапамагаюць падняцьцю інтэнсыўнасьці працы і дысцыпліны: наглядаюцца выпадкі скучанасьці, раскіданасьці ўстаноў і антысанітарнага становішча (накурана, брудна); |
| | 10) адміністрацыя мала ўжывае захадаў для падняцьця працоўнай дысцыпліны, аб чым сьведчыць тое, што: |
| | а) амаль усюды няма „правіл унутранага парадку“; |
| | б) няма ў большасьці ўстаноў ніякай формы кантролю яўкі, наглядаецца фармальнае правядзеньне яго там, дзе ён ёсьць; |
| | в) неналаджана сыстэма кантролю праходжаньня спраў і выкананьня супрацоўнікамі сваіх абавязкаў; |
| | г) пакідаюцца без належнага пакараньня выпадкі парушэньня працоўнай дысцыпліны; |
| | д) слабая сувязь з прафэсіянальнымі арганізацыямі па лініі выхаваўчай працы; |
| | 11) прафэсіянальныя арганізацыі слаба вядуць выхаваўчую працу па падняцьці працоўнай дысцыпліны, нават сярод акруговых прафэсіянальных працаўнікоў наглядаецца недастатковае разуменьне ролі прафэсіянальнага саюзу ў падняцьці дысцыпліны. Пытаньні працоўнай дысцыпліны і факты яе парушэньня мала асьвятляюцца на агульных сходах, у насьценных газэтах і на пасяджэньнях мясцовых камітэтаў. |
| | Б. Абавязаць кіраўнікоў устаноў: |
| | 1) дабіцца сваечасовай яўкі на службу ўсіх супрацоўнікаў, уключаючы адказных; |
| | 2) увесьці найбольш мэтазгодную (ва ўмовах установы) сыстэму кантролю яўкі і адходу (марачная сыстэма ці запіс спазьніўшыхся); |
| | 3) на працягу месяца, з часу атрыманьня гэтай пастановы, распрацаваць і ўвесьці „Правілы ўнутранага парадку“, якія рэглямэнтуюць таксама сыстэму пакараньня за парушэньні працоўнай дысцыпліны, а таксама, не пазьней двох ме- |

| Разглядалі: | Пастанавілі: |
|---|---|
| | сячнага тэрміну, вызначыць правы і абавязкі кожнага супрацоўніка;<br>4) дабіцца хуткага праходжаньня спраў і вырашэньня скарг і заяў насельніцтва, прыцягваючы да адказнасьці кожнага супрацоўніка, які дапусьціць беспадстаўную зацяжку;<br>5) ужыць рашучыя захады для палепшаньня культурна-гігіенічных умоў працы супрацоўнікаў, у паасобку, змагацца з курэньнем за працаю;<br>6) устанавіць кантакт з прафэсіянальнымі арганізацыямі ў галіне правядзеньня выхаваўчай працы navакол пытаньняў працоўнай дысцыпліны, дабіваючыся высьвятленьня ўсіх недахопаў працоўнай дысцыпліны на агульных сходах і ў насьценных газэтах;<br>7) ужыць усе захады да лепшага абслугоўваньня наведчыкаў, у паасобку, трэба большую ўвагу зьвярнуць на ўстаноўку нямой і жывой даведкі;<br>8) шырэй прыцягнуць супрацоўнікаў да працы па рацыяналізацыі апарату.<br>Больш вылучаць на вышэйшыя пасады супрацоўнікаў, якія выяўляюць сябе на працы.<br>В. Даручыць Народнаму Камісарыяту Працы праз 3 месяцы праверыць выкананьне гэтай пастановы, прыцягнуўшы да праверкі прафэсіянальныя і грамадзкія арганізацыі.<br>Г. Запрапанаваць Кантрольнай групе праверыць усе скаргі і заявы, пададзеныя ў час абсьледваньня, і аб выніках паведаміць па належнасьці.<br>Д. Даручыць т. т. Сьвірыдаву, Ракаву і Бірылу на падставе матар'ялаў абсьледваньня скласьці дадатковыя прапановы, якія вынікаюць з матар'ялаў, і ўнесьці на разгляд наступнага пасяджэньня. |

Старшыня **П. Віленстовіч**.
Сакратар **Бобрык**.

---

## 10. Абежнік Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

### ПРА ПЕРАДАЧУ У ЗЯМЕЛЬНЫ ФОНД ВОЛЬНЫХ ПАХАТНЫХ І СЕНАЖАТНЫХ ВУЧАСТКАЎ.

*Усім акруговым зямельным аддзелам.*

Паводле пастановы Прэзыдыуму ЦВК БССР за 11 верасьня 1927 г. „Пра перадачу вольных вучасткаў лясного фонду“ і ў дадатак да абежніку Народнага Камісарыяту Земляробства БССР за 8 сьнежня 1927 г. № 22432 „Пра вольныя пахатныя і сенажатныя вучасткі“, Народны Камісарыят Земляробства БССР прапануе неадкладна перадаць у зямельны фонд:

1) Пахатныя і сенажатныя вучасткі, якія астаюцца пасьля задаволеньня лясьніцтваў службовымі надзеламі і плошча якіх перавышае 10 гэктараў.

Вучасткі, меншыя 10 гэктараў, пакідаюцца ў дзяржаўным лясным фондзе для паступовага іх залясеньня.

2) Тыя лясныя вучасткі сярод лясных масываў, большыя 10 гэкт., якія не аблесіліся і не даюць ніякай надзеі на натуральнае іх аднаўленьне і передача якіх не адаб'ецца шкодна на лясной гаспадарцы.

3) Пры перадачы памянёных вышэй вучасткаў, калі яны знаходзяцца сярод лясного масыву, абумовіць патрэбу заба́роны будаваньня на іх будынкаў.

4) Няўдобныя плошчы, выключэньне якіх з дзяржаўнага лясного фонду ня будзе шкодным для лясной гаспадаркі, перадаваць у зямельны фонд, калі гэтае пытаньне будзе выклікацца мэтамі землеўпарадкаваньня або на гэтыя плошчы будзе патрабаваньне мэліарацыйных таварыстваў, якія маюць канкрэтны плян мэліарацыі гэтых плошчаў.

5) Пакідаюцца ў дзяржаўным лясным фондзе тыя плошчы памянёных у арт. 1 і 2 гэтага абежніку вучасткаў, якія:

а) патрэбны лясьніцтвам для службовых надзелаў і для ўтрыманьня скарбовых коняй;

б) якія здаваліся сялянам з пад высечкі для часовага сельскагаспадарчага карыстаньня і

в) якія атрыманы ад сялянства і залічаны ў дзяржаўны лясны фонд у парадку абмену.

6) Канчатковае вырашэньне пытаньняў аб перадачы вучасткаў, памянёных у арт. 1 і 2 гэтага абежніку, даручаецца акруговым зямельным аддзелам.

7) Тэрмін канчатковай перадачы ў зямельны фонд вучасткаў, памянёных у арт. арт. 1 і 2 гэтага абежніку, устанаўляецца 1-га чэрвеня 1928 г.

8) Перадача няўдобных плошчаў, аб якіх гаворыцца у арт. 4 гэтага абежніку, павінна рабіцца таксама, як і перадача іншых лясных плошчаў, устаноўленым для гэтага парадкам паводле абежніку Народнага Камісарыяту Земляробства БССР № 15, і кампэтэнцыя канчатковага вырашэньня пытаньняў аб разьмерах плошчаў пакідаецца для акруговых зямельных аддзелаў ранейшая (10 гэктараў для плошчаў пакрытых лесам і 50 гэктараў для непакрытых.)

9) На 1 жніўня 1928 г. акруговыя зямельныя аддзелы павінны падаць зьвесткі аб выніках перадачы паводле гэтага абежніку, паказаўшы агульную плошчу перададзеных вучасткў па катэгорыях, паводле формы, далучанай да абежніку № 22432.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР **Я. Валодзька.**

Загадчык Лясного Аддзелу НКЗ БССР **В. Ткачоў.**

Інспэктар Лясоў НКЗ БССР **Ч. Бнлюнас.**

16 красавіка 1928 г.
№ 4 л 5.

## 11 Інструкцыя Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

### ПРА ПАРАДАК ДАЧЫ ЛЬГОТ ПА АПЛАЦЕ ЗЕМЛЯЎПАРАДЧЫХ І ПАЗЯМЕЛЬНА-РЭГІСТРАЦЫЙНЫХ РАБОТ.

*І. Агульныя палажэньні.*

1. Гэтая інструкцыя выдаецца замест інструкцыі аб гэтым пытаньні, зацьверджанай Калегіяю Народнага Камісарыяту Земляробства БССР 11 сакавіка 1926 г. (прат. № 15, § 4), і пашыраецца на земляўпарадчыя справы, якія выконваюцца ў натуры з 1-га красавіка 1928 г.

*Увага.* Калі да 1-га красавіка 1928 г. астануцца такія няскончаныя ў натуры справы, па якіх працэс дачы льгот пачаты па існаваўшай раней інструкцыі, то канчатковае афармленьне і падлік дадзеных льгот па такіх справах робіцца на ранейшых падставах, паказаўшы вынікі ў справаздачы на 1-ае красавіка 1928 г.

2. Льготы па аплаце земляўпарадчых і пазямельна-рэгістрацыйных работ устанаўляюцца двух відаў: а) зусім зьнімаецца плата і б) зьнімаецца частка платы.

3. Зусім зьнімаецца плата з:

а) груп двароў, якія арганізуюць каляктыўныя гаспадаркі на сваіх надзельных землях ці на землях запаснага фонду;

б) сем'яў інвалідаў грамадзянскай і імпэрыялістычнай вайны і асоб, якія знаходзяцца на сацыяльным забясьпечаньні;

в) сем'яў чырвонаармейцаў і кіруючага складу Чырвонай Арміі і Флёту, якія атрымоўваюць дапамогу ад Народнага Камісарыяту Ваенных і Марскіх Спраў альбо ад Народнага Камісарыяту Сацыяльнага Забясьпечаньня.

*Увага.* За паказанымі сем'ямі захоўваецца права на атрыманьне льгот на працягу аднаго году ад дня звальненьня члена сям'і з Чырвонай Арміі і Флёту.

г) сем'яў быўшых чырвоных партызанаў і чырвонагвардзейцаў якія актыўна змагаліся з абшарнікамі і капіталістамі;

д) бядняцкіх сялянскіх гаспадарак, з якіх зьнімаецца ўвесь сельска-гаспадарчы падатак;

е) безьзямельных і малазямельных сем'яў, якія расьсяляюцца на землях зямельнага фонду ў парадку надзяленьня і данадзяленьня іх да ўстаноўленых мінімальных норм надзяленьня, калі ў іх няма сталых заробкаў або даходаў;

ж) камітэтаў грамадзкай сялянскай узаемадапамогі за зямельныя вучасткі, якія адводзяцца ім, а таксама з грамад, якія земляўпарадкоўваюцца, за вучасткі грамадзкага значэньня, напрыклад, школьныя, дзіцячыя і спартыўныя пляцоўкі, магільнікі і інш.

4. Зусім або часткаю зьнімаецца плата з:

а) бядняцкіх сялянскіх гаспадарак, з якіх зьнімаецца частка сельска-гаспадарчага падатку;

б) цэлых вёсак і паасобных гаспадарак, што пацярпелі ад навальных бядот, такіх як: пажар, паморак на жывёлу, сьмерць работніка ў гаспадарцы і інш., у залежнасьці ад разьмеру бядоты і на працягу ня больш 2-х гадоў пасьля яе.

5. Льготы даюцца раённымі выканаўчымі камітэтамі праз устанаўленьне належнага зьніжэньня сумы кошту работы па кожнай земляўпарадчай справе, якая прызначана да выкананьня ў натуры ў межах раёну паводле пляну работ справаздачнага пэрыяду.

6. Акругові зямельны аддзел, на падставе зацьверджанага акруговага пляну земляўпарадчых работ на кожны палявы пэрыяд, калі вызначыўся аб'ём работ у кожным раёне, павінен не пазьней 1-га чэрвеня кожнага году даць кожнаму раённаму выканаўчаму камітэту кантрольныя лічбы на зьніжэньне ад аплаты работ па кожнай справе ў паасобку.

*Увага.* Кантрольныя лічбы зьніжэньня па кожчай справе вызначаюцца ня ў рублёх, а ў $^0/_0{}^0/_0$ належнага зьніжэньня.

7. Плян кантрольных лічбаў зьніжэньня на льготы па аплаце работ акругові зямельны аддзел складае на падставе агульных дырэктыў Народнага Камісарыяту Земляробства і ўзгадняе яго з акруговым фінансавым аддзелам.

Раённы выканаўчы камітэт з дадзеных кантрольных лічбаў бяз згоды акруговага зямельнага аддзелу і акруговага фінансавага аддзелу выходзіць ня можа.

## *II. Парадак устанаўленьня праў на льготы, дачы і падліку іх.*

8. Раённы выканаўчы камітэт перад тым, як патрабаваць ад паселішча ўнясеньня першага плацяжу ў рахунак земляўпарадчых работ, паводле § 10 інструкцыі НКЗ і НКФ за 15 сьнежня 1927 г. (Бюлетэнь СНК БССР № 18 за 1927 г.), павінен абавязкова скласьці арыентыровачны сьпіс тых бядняцкіх гаспадарак, з якіх можа быць зьнята ўся або часткаю плата, з тым, каб самі грамадзяне, а таксама ўпаўнаважаны паселішча добра ведалі, з якіх гаспадароў паселішча павінна зараз-жа брацца плата за земляўпарадкаваньне і з якіх гаспадарак можа быць зьнята плата.

9. Паказаныя ў папярэднім артыкуле арыентыровачныя сьпісы бядняцкіх гаспадарак складаюцца раённым выканаўчым камітэтам наступным парадкам:

а) даручаючы свайму прадстаўніку (ці ў асобе адказнага працаўніка раённага выканаўчага камітэту, ці земляўпарадчыка) абсьледваньне мэтазгоднасьці правядзеньня земляўпарадкаваньня, па паднятым насельніцтвам хадайніцтве аб земляўпарадкаваньні, раённы выканаўчы камітэт адначасна даручае яму і складаньне сьпісу гаспадароў, з якіх можа быць зьнята плата паводле арт. арт. 2, 3 і 4 гэтай інструкцыі;

б) для складаньня гэтага сьпісу прадстаўнік раённага выканаўчага камітэту (альбо земляўпарадчык) прыцягвае да актыўнага удзелу належны сельскі савет і мясцовы камітэт сялянскага таварыства ўзаемадапамогі, усклаўшы на іх поўную адказнасьць, а таксама ўпаўнаважаных па земляўпарадкаваньні паселішча;

в) сьпіс складаецца паводле далучанай да гэтай інструкцыі формы № 1, запаўняючы пакуль што гр. гр. 1, 2, 3 і 7, падпісваецца ўсімі ўдзельнікамі складаньня яго і абвяшчаецца на агульным сходзе гр-н паселішча з папярэджаньнем, што канчаткова гэты сьпіс з вызначэньнем сум зьняцьця платы з кожнай гаспадаркі і наогул з паселішча будзе зацьверджаны раённым выканаўчым камі-

тэтам пасьля дакладнага высьвятленьня плошчаў зямлі, якія павінны быць адведзены кожнай гаспадарцы, у выніку правядзеньня далейшага земляўпарадкаваньня і пасьля разгляду тых скарг, якія пададуць зацікаўленыя грамадзяне на няправільнасьці, дапушчаныя пры складаньні сьпісу;

г) гэты сьпіс складаецца ў трох экзэмплярах, з якіх адзін астаецца ў упаўнаважаных па земляўпарадкаваньні паселішча, адзін у належным сельскім савеце і адзін далучаецца да хадайніцтва насельніцтва аб земляўпарадкаваньні.

10. Упаўнаважаныя па земляўпарадкаваньні паселішча, атрымаўшы складзены, паводле арт. 9 гэтай інструкцыі, сьпіс бядняцкіх гаспадарак, ня маюць права патрабаваць ад гаспадароў, запісаных у гэтым сьпісу, унясеньня тых ці іншых сум у рахунак платы за земляўпарадкаваньне аж да канчатковага зацьверджаньня льгот раённым выканаўчым камітэтам, паводле арт. 12 гэтай інструкцыі.

Сельскія саветы з свайго боку павінны сачыць за выкананьнем паказанага.

11. Канчатковыя сьпісы гаспадарак паселішча, з якіх павінна быць зьнята плата за земляўпарадкаваньне з дакладным вызначэньнем сум льгот кожнай гаспадарцы і ўсяму паселішчу, складаюцца раённым выканаўчым камітэтам наступным парадкам:

а) зараз-жа пасьля атрыманьня ад акруговага зямельнага аддзелу зьвестак аб тым, якія вёскі на тэрыторыі раёну ўключаны ў акруговы плян земляўпарадчых работ для выкананьня ў натуры за справаздачны пэрыяд, раённы выканаўчы камітэт прапануе належным сельскім саветам разам з земляўпарадчыкам, што вядзе справу па земляўпарадкаваньні паселішча ў натуры, і ўпаўнаважанымі паселішча дапоўніць графы 4, 5 і 6 складзенага, паводле арт. 9 гэтай інструкцыі, сьпісу № 1 (які ў кожнага з іх ёсьць) належнымі данымі, якія атрымаліся пасьля зробленага земляўпарадчыкам памеру і дакладнага вызначэньня плошчаў зямлі, што адведзены кожнаму гаспадару ў выніку земляўпарадкаваньня. Можна ў гэты момант рабіць у графах 1, 2, 3 і 7 арыентыровачнага сьпісу зьмены і дадаткі, калі на гэта ёсьць належныя падставы;

б) пасьля дапаўненьня канчатковымі разрахунковымі данымі сьпіс абвяшчаецца гр-м паселішча з папярэджаньнем, што ўсе скаргі нездаволеных павінны быць на працягу 2-х тыдняў пададзены ў зямельную частку раённага выканаўчага камітэту для праверкі і прыняцьця пад увагу пры канчатковым зацьверджаньні льгот;

в) сельскі савет паказаны канчатковы сьпіс падае ў двух экзэмплярах у раённы выканаўчы камітэт не пазьней двух тыдняў ад дня яго складаньня і абвяшчэньня зацікаўленым гр-нам на разгляд і зацьверджаньне.

12. Раённы выканаўчы камітэт, атрымаўшы ад сельскага савету паказаны сьпіс і маючы дырэктыўныя кантрольныя лічбы акруговага зямельнага аддзелу аб граничных сумах зьняцьця платы за работы ў даход скарбу, дадзеныя паводле арт. 6 гэтай інструкцыі, разглядае яго ў асобнай камісіі ў складзе: старшыні раённага выканаўчага камітэту (старшыня камісіі), загадчыка зямельных спраў раённага выканаўчага камітэту (нам. старшыні камісіі), загадчыка фінансаваю часткаю раённага выканаўчага камітэту, прадстаўніка ваеннага стала раённага выканаўчага камітэту і прадстаўніка раённага

камітэту сялянскага таварыства ўзаемадапамогі і, прыняўшы падувагу скаргі зацікаўленых гр-н, выносіць сваю пастанову, паводле даданай да гэтай інструкцыі формы № 2, якою зацьвярджаюцца агульная сума льгот паселішчу, а таксама і паасобныя сумы льгот для кожнай гаспадаркі паселішча.

*Увага 1.* Пастанова камісіі раённага выканаўчага камітэту зьяўляецца канчатковаю і абскарджвац ца ў вышэйшыя органы ня можа.

*Увага 2.* Пастанова камісіі раённага выканаўчага камітэту зьяўляецца законнаю, калі яна вынесена камісіяю з 3-х асоб, лічачы і старшыню, прычым прысутнасьць прадстаўніка камітэту сялянскіх таварystваў узаемадапамогі за ўсёды абавязкова.

*Увага 3.* Матар'ял для дакладу камісіі падрыхтоўваецца зямельнаю часткаю раённага выканаўчага камітэту.

13. Пастанову камісіі раённага выканаўчага камітэту аб дачы льгот з адным экзэмплярам канчатковага сьпісу (ф. № 1) раённы выканаўчы камітэт выдае на рукі ўпаўнаважанаму паселішча (беспасрэдна або праз належны сельскі савет) для перадачы апошнім земляўпарадчыку, што вядзе земляўпарадкаваньне паселішча, для далучэньня да зямляўпарадчай справы. Другі экзэмпляр сьпісу (форма № 1) астаецца ў справах раённага выканаўчага камітэту для справаздачы камісіі раённага выканаўчага камітэту і далейшых давед ак у выпадках прымусовага спагнаньня ў даход скарбу нядоімак па паселішчы.

14. Дастатковымі довадамі права на льготы паводле гэтай інструкцыі зьяўляецца:

а) паводле арт. 3, п. „а“—даведка раённага выканаўчага камітэту аб рэгістрацыі статуту калектыву;

б) „ „ 3, п.п. „б“, „в“, „г“, „д“ і „е“—даведка мясцовага камітэту сялянскіх таварystваў узаемадапамогі, органаў Народнага Камісарыяту Ваенных і Марскіх Спраў або органаў Народнага Камісарыяту Сацыяльнага Забясьпечаньня, або адзнака раённага выканаўчага камітэту аб тым, што з даных гаспадарак зьнят сельска-гаспадарчы падатак (паселішчны сьпіс 192...... г. за № ......................);

в) „ „ 3, п. „ж“—даныя земляўпарадчага праекту або даведкі раённага выканаўчага камітэту;

г) „ „ 4, п. „а“—адзнакі раённага выканаўчага камітэту аб тым, што з данай гаспадаркі зьнят увесь сельска-гаспадарчы падатак або на такі-та % (паселішчны сьпіс 192......... г. № ......................);

д) „ „ 4, п. „б“—копіі ліквідацыйных актаў прадстаўніка дзяржаўнага страхаваньня паводле інструкцыі для агэнтаў дзяржаўнага страхаваньня БССР або:

1) для асобных гаспадарак—акты, складзеныя прадстаўніком сельскага са-

вету і сельскага камітэту сялянскага таварыства ўзаемадапамогі з удзелам 2-х гр—н і

2) для цэлых паселішчаў—акты, складзеныя раённым выканаўчым камітэтам з удзелам раённага агранома і прадстаўніка раённага камітэту сялянскага таварыства ўзаемадапамогі.

У актах павінны адзначацца разьмер бядоты і страта гаспадаркі.

15. Для атрыманьня і сыстэматычнага замацаваньня вынікаў работы зямельных органаў у галіне дачы льгот насельніцтву па аплаце ў даход скарбу земляўпарадчых і пазямельна-рэгістрацыйных работ, з 1-га красавіка 1928 г. уводзіцца наступны парадак падліку фактычна дадзеных льгот за справаздачныя тэрміны:

а) справаздачнымі тэрмінамі для падліку вынікаў устанаўляюцца 1 красавіка і 1 кастрычніка кожнага году;

б) пры надыходзе справаздачнага тэрміну (1 красавіка або 1 кастрычніка кожнага году), зямельная частка раённага выканаўчага камітэту на падставе пастаноў камісіі аб дачы льгот кожнаму паселішчу (форма № 2) складае параённую справаздачную картку, паводле формы № 3, дадаанай да гэтай інструкцыі, і пасылае адзін экзэмпляр яе ў акруговы зямельны аддзел да 10 красавіка за 1-е паўгодзьдзе і да 10 кастрычніка за 2-е паўгодзьдзе кожнага году.

Лічбы параённай карткі (форма № 3) павінны ўключацца ў агульную справаздачу раённага выканаўчага камітэту, як вынікі работы яго за справаздачны пэрыяд у галіне работы сярод беднаты;

в) акруговы замельны аддзел, атрымаўшы да паказаных вышэй тэрмінаў параённыя карткі вынікаў паводле формы № 3, падагульняе вынікі па акрузе, паводле тае-ж формы № 3, і адзін экзэмпляр паакруговай карткі пасылае ў Народны Камісарыят Земляробства да 20 мая і 20 лістапада кожнага году.

Лічбы паакруговай карткі (форма № 3) павінны ўключацца ў агульную гадовую справаздачу акруговага зямельнага аддзелу па частцы земляўпарадчых мерапрыемстваў;

г) сума паакруговых картак (форма № 3) дае вынікі работы зямельных органаў па рэспубліцы, якія ўключаюцца ў агульную справаздачу Народнага Камісарыяту Земляробства БССР.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР **Я. Валодзька.**

За Загадчыка Аддзелу Земляўпарадкаваньня,

Мэліарацыі і Дзяржаўнай Зямельнай Маемасьці НКЗ БССР **У. Ліодт.**

18 красавіка 1928 г.

ДАДАТАК 1.

Форма № 1.

*У ........................................ Раённы Выканаўчы Камітэт.*

Падаецца на разгляд і канчатковае зацьверджаньне

# СЬПІС

гаспадарак паселішча .............................................. Сельскага Савету, якія маюць права на атрыманьне льгот па аплаце земляўпарадчых работ у даход скарбу, складзены .............................................. Сельскім Саветам на падставе арт. арт. 8—11 інструкцыі Народнага Камісарыяту Земляробства БССР за 18 красавіка 1928 г. (Бюлетэнь СНК БССР 1928 г. № 5).

| №№ па чарзе | Прозьвішча, імя і імя па бацьку гаспадара | Арт. і п. інструкцыі, паводле якіх зьнімаецца плата. | Колькі зямлі адводзіцца кожнаму гаспадару (гэкт.) у адзінках сярэдн. кошту па паселішчу | Кошт работы паводле таксы з кожн. гаспадара | | Сума льгот па заключэньні сельскага савету | | Падставы, паводле якіх дадзены льготы, (арт. 14 інструкцыі) | Сума льгот, зацьверджаная раённым выканаўчым камітэтам | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Р. | К. | Р. | К. | | Р. | К. |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | | 6 | | 7 | 8 | |
| 1 | Іваноў, С. П. | 3-а | 5,7 | 12 | 54 | 12 | 54 | Даведка РВК аб рэгістрацыі статуту каляктыву за ...../.....28 г. № ........ | 12 | 54 |
| 2 | Сідараў, І. В. | 4-б | 3,8 | 8 | 34 | 8 | 34 | Акт абсьледваньня сельскага савету за ...../.....28 г. № | 8 | 34 |
| 12 | Паўлаў, П. Т. | 4-а | 4,9 | 10 | 78 | 10 | 78 | Паводле падатковага паселішчнага сьпісу 192..... г, чарговы № ........, сельска-гаспадарчы падатак зьняты на ........ проц. | 8 | 56 |
| 20 | Вучастак Камітэту Сялянскага Таварыства Узаемадапамогі | 3-ж | 5,0 | 11 | — | 11 | — | Даведка з земляўпарадчага праекту | 11 | — |
| 22 | Школьны вучастак | 3-ж | 2,0 | 4 | 40 | 4 | 40 | Даведка з земляўпарадчага праекту | 4 | 40 |
| | РАЗАМ. | | 178,75 | 393 | 25 | 328 | 75 | | 278 | 25 |

*Атрымала льгот 22 гаспадаркі з агульнага ліку 80 гаспадарак, што складае 27,5 проц.*

Старшыня ........................................ Сельскага Савету (подпіс)

Прадстаўнік Камітэту Сялянскага Таварыства Узаемадапамогі (подпіс)

Упаўнаважаны паселішча па земляўпарадкаваньні (подпіс)

Адказн. Прадстаўнік Раённага Выканаўчага Камітэту ........................................ (подпіс)

Земляўпарадчык ........................................ (подпіс)

ДАДАТАК 2

Форма № 2

## Пратакол камісіі

Раённага Выканаўчага Камітэту аб разглядзе і канчатковым зацьвердажньні сум льгот па аплаце ў даход скарбу земляўпарадчых работ.

„..........“.......................... 192 г. №......................

Прысутнічалі:

Старшыня Камісіі..............................

Прадстаўнік Раённага Камітэту Сялянскіх Таварystваў Узаемадапамогі..............................

Члены: { ..............................
..............................

РАЗГЛЯДАЛІ:

Аб дачы льгот па аплаце ў даход скарбу земляўпарадчых работу:
паселішчы..............................
..............................
...................с/с..................

Падстава:

1. Сьпіс гаспадарак паселішча, якія маюць права на льготы. складзены...... Сельскім Саветам „ “.................. 192......г.
2. Скаргі гр-н..............................
..............................
..............................
..............................
на неправільнасьці, якія дапушчаны сельскім саветам пры складаньні сьпісу.
3. Кантрольныя лічбы акруговага зямельнага аддзелу аб разьмеры зьняцьця платы ў даход скарбу па справе............ проц.

ПАСТАНАВІЛІ:

Разглядзеўшы падрабязна ўвесь матар'ял аб устанаўленьні праў на атрыманьне льгот гр-мі паселішча.............................. Камісія, паводле арт. 12 інструкцыі Народнага Камісарыяту Земляробства БССР за 18 красавіка 1928 г., заайшла патрэбным:

1. Суму льгот па аплаце работ па паселішчы.............................. зацьвердзіць у суме........................ руб.............. кап.

2. Разьмеркаваньне агульнай сумы зьніжэньня паміж паасобнымі гаспадаркамі зацьвердзіць, паводле графы 8 даданага сьпісу сельскага савету за „ “........................ 192......г., што дасьць наступнае скарыстаньне фонду па катэгорыях, якія атрымалі льготы:

| Артыкулы, інструкцыі, паводле якіх дадзены льготы. | Зьнята плата: Уся — Лік гаспадарак | Уся — На суму Р. | Уся — На суму К. | Часткаю — Лік гаспадарак | Часткаю — На суму Р. | Часткаю — На суму К. | Разам — Лік гаспадарак | Разам — На суму Р. | Разам — На суму К. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Арт. 3, п. „а“ | | | | | | | | | |
| „ 3, п. „б“ | | | | | | | | | |
| „ 3, п. „в“ | | | | | | | | | |
| „ 3, п. „г“ | | | | | | | | | |
| „ 3, п. „д“ | | | | | | | | | |
| „ 3, п. „е“ | | | | | | | | | |
| „ 3, п. „ж“ | | | | | | | | | |
| „ 4, п. „а“ | | | | | | | | | |
| „ 4, п. „б“ | | | | | | | | | |
| РАЗАМ | | | | | | | | | |

Што ад агульнага ліку.......... гаспадарак складае.......... проц. гаспадарак, з якіх зьнята плата, і зд агульнага кошту работ у суме.......... руб.......... кап. складае..........% зьніжэньня.

Адзін экзэмпляр гэтай пастановы з экзэмплярам канчатковага сьпісу зараз-жа праз упаўнаважанага паселішча накіраваць земляўпарадчыку. які выконвае справу, для далучэньня да справы і прыняцьця пад увагу пры складаньні канчатковага разрахунку з насельніцтвам па аплаце работ у даход скарбу.

Старшыня Камісіі

Члены: |
|

ДАДАТАК 3.

Форма № 3.

# Справаздачная картка

дадзеных льгот па аплаце земляўпарадчых работ у даход скарбу

.............................................. Раённага Выканаўчага Камітэту / Акруговага Зямельнага Аддзелу

ЗА першае / другое паўгодзьдзе 192........г.

| Артыкулы інструк. паводле якіх дадзены льготы: | Зьнята платы ў Раёне / Акрузе | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Уся | | | Часткаю | | | Разам | | |
| | Лік гаспадарак | На суму | | Лік гаспадарак | На суму | | Лік гаспадарак | На суму | |
| | | Руб. | К. | | Руб. | К. | | Руб. | К. |
| Паводле артыкулаў: | | | | | | | | | |
| Арт. 3, п. „а" | | | | | | | | | |
| „ 3, п. „б" | | | | | | | | | |
| „ 3, п. „в" | | | | | | | | | |
| „ 3, п. „г" | | | | | | | | | |
| „ 3, п. „д" | | | | | | | | | |
| „ 3, п. „е" | | | | | | | | | |
| „ 3, п. „ж" | | | | | | | | | |
| „ 4, п. „а" | | | | | | | | | |
| „ 4, п. „б" | | | | | | | | | |
| РАЗАМ ПА Раёну / Акрузе | | | | | | | | | |

Ад агульнага ліку гаспадарак .............. зьнята плата з .............. або .............. проц.

Ад агульнага кошту работ .............. руб., дадзена льгот .............. руб., або .............. проц.

Загадчык Зямельнай часткі Раён. Выкан. Камітэту / Акруговага Зямельнага Аддзелу .............................. (подпіс)

На адвароце.

# Адкрыты ліст

КАМУ ..............................................................

..............................................................

..............................................................

КУДЫ ..............................................................

..............................................................

..............................................................

Для адзнак

.......................................................................................................................................................

(прычыны непаўнаты дадзеных зьвестак)

.......................................................................................................................................................

(пералік пастаноў Камісіі (№№ і даты) для раёнаў і пералік раёнаў, якія падалі справаздачныя карткі, для акруг і іншыя адзнакі)

.......................................................................................................................................................

.......................................................................................................................................................

.......................................................................................................................................................

№ ...........................

„..........“ ............................................192........г.

---

## 12. Пстанов Народнага Камісарыяту Земляробства і Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

### ПРА МЕРАПРЫЕМСТВЫ ДЛЯ ЗМАГАНЬНЯ З ГРЫБНЫМІ ХВАРОБАМІ НАСЕНЬНЯ ЗБОЖЖА.

Для ажыцяўленьня пастановы Эканамічнай Нарады пры СНК БССР за 7 сакавіка 1928 г. № 2901/9 пра змаганьне з заражэньнем насеньня збожжа грыбнымі хваробамі (сажаю) галаўнёй і ражкамі (спарыньнёй), Народны Камісарыят Земляробства і Народны Камісарыят Гандлю БССР пастанаўляюць:

1. Усе дзяржаўныя і каперацыйныя арганізацыі, што гандлююць насеньнем, а таксама і прыватныя гандляры павінны ўсё збожжа, прызначанае для пасеву, праверыць на кантрольна-насенных станцыях альбо ў пунктах збожжавай Інспэкцыі, ці не заражана яно грыбнымі хваробамі.

2. Усе арганізацыі, што гандлююць насеньнем, ня маюць права прадаваць ці трымаць на складах несеньне збожжа без пасьведчаньня аб ступені заражэньня грыбнымі хваробамі.

3. Максімальнае заражэньне збожжа грыбнымі хваробамі, пры які дазваляецца вольны продаж насеньня, устанаўляецца—для сажы (галаўні)—0,1 проц., і для ражкоў (спарыньні)—0,1 проц.

4. Усё насеньне збожжа, ступень заражэньня грыбнымі хваробамі якога не перавышае ўстаноўленай арт. 3 нормы, можа прадавацца вольна і высявацца без папярэдняга пратручваньня альбо ачысткі яго. Усё несеньне, заражанае сажаю (галаўнёю) больш нормы, але ня больш 0,5 проц., можа прадавацца пры ўмове, што ад купца будзе ўзята падпіска аб тым, што ён ведае аб заражэньні насеньня больш нормы; заражанае больш як 0,5 проц. забараняецца прадаваць.

Насеньне, заражанае ражкамі (спарыньнёю) больш устаноўленай нормы, гандляр насеньня павінен ачысьціць да ўстаноўленай нормы.

5. Усе арганізацыі, што гандлююць насеньнем, павінны мець на сваіх складах, для забясьпечваньня купцоў насеньня, сродкі для пратручваньня насеньня.

6. Усе дзяржаўныя і каперацыйныя гаспадарчыя арганізацыі, што купляюць насеньне для пасеву, якое заражана, больш установленай нормы, павінны яго пратруціць.

7. Усе дзяржаўныя і капэрацыйныя арганізацыі, што разводзяць насеньне ў сваіх гаспадарках, павінны праверацць насеньне на кантрольна-насенных станцыях альбо ў пунктах Збожжавай Інспэкцыі не заражана яно грыбнымі хваробамі. Калі ступень заражэньня насеньня грыбнымі хваробамі будзе перавышаць устаноўленую норму, то насеньне павінна быць пратручана альбо ачышчана.

8. Кантрольна-насенныя станцыі і пункты Збожжавай Інспэкцыі, павінны строга сачыць за тым, каб на ўсё насеньне збожжа, узоры якога паступаюць на аналіз быў зроблены аналіз, на заражэньне грыбнымі хваробамі.

9. Кантрольна-насенныя камісіі павінны сачыць за насенна-гандлюючымі арганізацыямі выкананьні арт. арт. 1, 2, 4 і 5 гэтай пастановы.

10. За невыкананьне гэтай пастановы вінаватыя адказваюць: службовыя асобы паводле 1 часткі 106, па 107 і 108 артыкулах, а прыватныя асобы, паводле арт. 190 і 192 Крым. Кодэксу.

11. Нагляд за выкананьнем гэтай пастановы ускладаецца на органы Народнага Камісарыяту Земляробства на мясцох.

Народны Камісар Земляробста БССР **З. Прышчэпаў.**

Нач. Народнага Камісара Гандлю БССР **М. Брыскін.**

23 красавіка 1928 г.
№ 33.

---

## 13. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў БССР

ПРА ПАРАДК СКАРЫСТАНЬНЯ Ў МІРНЫ ЧАС МЯСЦОВЫМІ ОРГАНАМІ НАРОДНАГА КАМІСАРЫЯТУ УНУТРАНЫХ СПРАЎ АСОБ, ЯКІЯ ЗВОЛЬНЕНЫ АД АБАВЯЗКОВАЙ ВАЙСКОВАЙ СЛУЖБЫ З ПРЫЧЫНЫ РЭЛІГІЙНЫХ ПОГЛЯДАЎ.

У адпаведнасьці з арт. 220 Закону аб абавязковай вайсковай службе (постанова ЦВК і СНК СССР за 18 верасьня 1925 г.—З. З. СССР 1925 г., № 62, арт. 463 і дадатковая пастанова за 8 лютага 1927 г.—З. З. СССР 1927 г. № 9, арт. 84) Народны Камісарыят Унутраных Спраў БССР прапануе наступны парадак скарыстаньня мясцовымі органамі Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў ў мірны час асоб, якія звальняюцца ад абавязковай вайсковай службы з прычыны іх рэлігійных поглядаў:

1. Адміністрацыйныя органы Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў на мясцох скарыстоўваюць грамадзян, звольненых ад вайсковай службы з прычыны рэлігійных поглядаў апошніх, для працы, якая замяняе ім вайсковую службу, а імена, для змаганьня з ляснымі і торпавымі пажарамі, разводзьдзямі, паводкамі, сьнежнымі завеямі, для змаганьня з пошасьцямі на людзей і на жывёлу, з шкоднікамі, для работ па папярэджваньні навальных бядот, па дапамозе асобам, пацярпеўшым ад навальных бядот, а таксама для зямельных работ па дарожным будаўніцтве і для іншых агульна-карысных работ.

2. Адміністрацыйныя органы Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў на мясцох для працы па змаганьні з паказанымі вышэй навальнымі бядотамі (ляснымі і торпавымі пажарамі, разводзьдзем, сьнежнымі завеямі, пошасьцямі, шкоднікамі і г. д.) маюць права ў першую чаргу скарыстоўваць асоб, якія звольнены ад вайсковай службы з прычыны рэлігійных поглядаў.

3. Паказаныя грамадзяне могуць прыцягвацца да працы, што замяняе вайсковую службу, толькі ў мірны час на працягу усяго

часу праходжаньня іх равесьнікамі абавязковай вайсковай службы аднак з тым, каб агульная даўжыня работ, якія вяла асоба, звольненая ад вайсковай службы з прычыны рэлігійных поглядаў, замест вайсковай службы, не перавышала двух гадоў.

4. Грамадзяне, звольненыя пастановаю адпаведнага акруговага суда ад абавязковай вайсковай службы з прычыны іх рэлігійных паглядаў і пасьля мэдычнага агляду прызнаныя здольнымі для вайсковай службы, павінны на месцы свайго сталага жыцьця запісацца на падлік: ў гарадох—ў ваенных камісарыятах, а ў сельскіх мясцовасьцях—ў падлічальна-ваенных сталох пры раённых выканаўчых камітэтах. Усе гэтыя грамадзяне павіны мець пасьведчаньні аб звальненьні іх ад абавязковай вайсковай службы з прычыны рэлігійных поглядаў, выдадзеныя ім прызыўнымі камісіямі (ваеннымі камісарыятамі) паводле вызначай формы.

5. Зьвесткі (лічбавыя і пэрсанальныя) аб асобах, якія лічацца (ў межах пяці малодшых, пачынаючы з прызыўнага ў бягучым годзе, гадоў) на падліку звольненых ад вайсковай службы з прычыны рэлігійных поглядаў, калі патрэбны, вытрабоўваюцца адміністрацыйнымі аддзеламі акруговых гарадоў—ад ваеннага камісарыяту і гарадзкімі саветамі не акруговых гарадоў—ад мясцовага ваенна-падлічальнага органу.

6. Агульныя, атрыманыя паводле арт. 5 гэтай інструкцыі, лічбовыя зьвесткі, аб асобах, якія звольнены ад абавязковай вайсковай службы з прычыны рэлігійных поглядаў, і якіх можна скарыстаць паводле арт. 220 Закону аб абавязковай вайсковай службе (рэдакцыя 1927 г.), яднаюцца ў акруговых адміністрацыйных аддзелах для складаньня пляну скарыстаньня рэлігійнікаў і падзяляюцца на асобныя падлеглыя адміністрацыйна-тэрыторыяльныя адзінкі.

7. Плян скарыстаньня асоб, звольненых ад абавязковай вайсковай службы з прычыны рэлігійных поглядаў, складаецца акруговым адміністрацыйным аддзелам па згодзе з акруговым аддзелам працы і зацьвярджаецца акруговым выканаўчым камітэтам

8. Пры складаньні памянёнага ў арт. 7 гэтай інструкцыі пляну бяруцца пад увагу заяўкі органаў і ўстаноў, якія вядуць работы, паказаныя ў арт. арт. 1 і 2 гэтай інструкцыі, месца і час такіх работ, а таксама лік асоб, звольненых ад абавязковай вайсковай службы з прычыны рэлігійных поглядаў, якія жывуць у раёне намечаных работ.

9. Калі трэба скарыстаць грамадзян, зволеных ад абавязковай вайсковай службы з прычыны рэлігійных поглядаў, для агульна-карысных работ, якія замяняюць для іх праходжаньне вайсковай службы (напрыклад, для дарожна-будаўнічых, дарожна-рамонтных работ і г. д.), то па прапанове мясцовых адміністрацыйных органаў НКУС, раённыя выканаўчыя камітэты ці гарадзкія саветы абвяшчаюць (публікуюць або паведамляюць праз адпаведныя сельскія саветы ці міліцыю) аб яўцы ў назначаны дзень і час на месца работы грамадзян, што лічацца на падліку як асобы, звольненыя ад вайсковай службы з прычыны рэлігійных поглядаў і могуць скарыстоўвацца паводле арт. 220 Закону аб вайсковай службе.

10. Усе выкліканыя астаюцца на ўвесь час работы залічанымі на падліку ваенна-падлічальных сталоў, пры гэтым, калі работа (незалежна ад яе даўжыні) будзе весьціся ў раёне таго падлічальнага органу, дзе знаходзіцца на падліку прыцягнуты, то ён і астаецца на падліку ў тым самым падлічальным органе; калі-ж работа будзе весьціся па-за раёнам падлічальнага органу, дзе лічыцца на

падліку прыцягнуты, і будзе весьціся больш 2-х месяцаў, прыцягнуты павінен да ад'езду зьняцца з падліку, а, прыехаушы на месца работы, залічыцца на падлік ў падлікавым органе па месцы работы; калі-ж работа будзе цягнуцца менш 2-х месяцаў, то прыцягнутым асобам дазваляецца з падліку ў сталым месцы жыцьця ня зьнімацца. Выклікаючы на работу, выклікаваных трэба паведамляць аб гэтым парадку афармленьня іх подліку.

11. Работа асоб, зволеных ад абавязковай вайсковай службы з прычыны рэлгійных поглядаў, аплачваецца органам, для якога гэтыя работы беспасрэдна вяліся.

12. Плата за адзін рабочы дзень аднаго працуючага вызначаецца з разьліку сярэдняга сутачнага кошту ўтрыманьня чырвонаармейца пяхоты. Разьмер гэтай стаўкі ўстанаўляецца акруговым аддзелам працы па згодзе з адпаведным прафэсыянальным саветам і вайсковым камандаваньнем данай тэрыторыі і зацьвярджаецца акруговым выканаўчым камітэтам.

13. Орган, для якога вядзецца работа, забясьпечвае асоб, прыцягнутых да такіх паводле арт. 220 Закону аб абавязковай вайсковай службе, усімі сродкамі і прыладамі для работ на месцы.

Калі работы выконваюцца прыладамі, якія належаць прыцягнутым асобам, то ўсялякія страты, зьвязаныя з зношваньнем, паламаньнем і псаваньнем гэтых прылад, адплачваюцца тым-жа органам, для якога вяліся работы.

Орган, для якога вядзецца работа, забясьпечвае перавозку выклікаваных для гэтага асоб, калі да месца работы ім давядзецца ісьці больш 25 кілёмэтраў.

14. Колькасьць прапрацаванага кожнаю асобаю прыцягнутаю да работы паводле гэтай інструкцыі часу адзначаецца: 1) ў сьпісе працуючых, што складаецца органам, для якога вялася работа і 2) тым самым органам ў асобных аркушах, што складаюцца і і ўкладваюцца ў пасьведчаньне аб звальненьні ад вайсковай службы з прычыны рэлігійных поглядаў. Гэтыя ўкладныя лісты (разьмер фармату „Пасьведчаньня") зьяўляюцца дакумэнтамі, якія пасьвядчаюць скарыстаньне данай асобы на карысных работах, паводле арт. 220 Закону аб абавязковай вайсковай службе.

15. На асоб, што скарыстоўваюцца мясцовымі адміністрацыйнымі органамі, НКУС, паводле арт. 220 Закону аб абавязковай вайсковай службе, пашыраюцца ўсе правілы, установленыя Кодэксам Законаў аб Працы, апроч:

а) арт. арт. 15—26 (гл. IV), якія тычацца калектыўных дагавораў;

б) арт. арт. 27—40, 42, 44—49 (гл. V), якія тычацца працоўнага дагавору;

в) арт. арт. 58, 64, 69, 71, 75 (гл. VIII), якія тычацца аплаты працы;

г) арт. арт. 80—72, 87, 92 (гл. IX), якія тычацца гарантыі і кампэнсацыі;

д) арт. арт. 114—120 (гл. XI), якія тычацца адпускоў;

е) арт. арт. 121—128 (гл. XII), якія тычацца вучнёўства;

ж) арт. арт. 156—165, 167 (гл. XV), якія тычацца фабрычна-завадзкіх камітэтаў і мясцовых камітэтаў;

з) арт. арт. 168, 170—174 (гл. XVI), якія тычацца органаў, што вырашаюць канфлікты;

і) арт. арт. 175—192 (гл. XVII), якія тычацца сацыяльнага страхаваньня.

16. За асобамі, звольненымі ад вайсковай службы з прычыны рэлігійных поглядаў і прыцягнутымі да работ, што замяняюць вайсковую службу, на працягу трох месяцаў захоўваецца ранейшае месца работы.

17. Забясьпечаньня ў выпадку сьмерці ці за калецтва асоб прыцягнутых да работ паводле гэтай інструкцыі, робіцца тым органам, для якога гэтыя работы вяліся, паводле арт. арт. 445, 446, 448—457 Грамадзянскага Кодэксу БССР.

18. Ухіленьне асоб, звольненых ад абавязковай вайсковай службы з прычыны рэлігійных поглядаў, ад падліку і яўкі на такі (арт. 4 гэтай інструкцыі) выклікае для іх адказнасьць ў судовым парадку паводле арт. 82 Крым. Кодэксу.

19. Неяўка ці ўхіленьне ад работ асоб, звольненых ад вайсковай службы з прычыны рэлігійных поглядаў, якія прыцягнуты да работы, паводле арт. 220 Закону аб абавязковай вайсковай службе, выклікае прыцягненьне да адказнасьці паводле арт. 79 Крымінальнага Кодэксу (З. З. БССР 1926 г., № 43, арт. 163) пры чым у першы раз адміністрацыйнае пакараньне накладаецца паводле „Палажэньня аб парадку выданьня акруговымі і раённымі выканаўчымі камітэтамі абвязковых пастаноў і аб адміністрацыйным пакараньні за іх парушэньне. (З. З. БССР 1925 г., № 31, арт. 288).

20. Акруговыя адміністрацыйныя аддзелы ў гадавых справаздачах паведамляюць Народнаму Камісарыяту Ўнутраных Спраў агульную колькасьць асоб, якія знаходзяцца на падліку, як звольненыя ад вайсковай службы з прычыны рэлігійных поглядаў, і выпадкі скарыстаньня іх паводле арт. 220 Закону аб абавязковай вайсковай службе.

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР **Я. Кроль.**

30 красавіка 1928 г.

---

## 14. Пастанова Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

ПРА ЗАЦЬВЕРДЖАНЬНЕ ІНСТРУКЦЫІ АБ ПРЫЙМАНЬНІ, ПЕРАВОДАХ І ВЫПУСКАХ У ДАШКОЛЬНЫХ УСТАНОВАХ (ДЗІЦЯЧЫХ САДОХ І АЧАГОХ).

Народны Камісарыят Асьветы БССР пастанаўляе зацьвердзіць далучаную да гэтай пастановы інструкцыю аб прыйманьні, пераводах і выпусках у дашкольных установах (дзіцячых садох і ачагох) БССР.

Нам. Народнага Камісара Асьветы БССР **Б. Вансоўскі.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Асьветы БССР **Ю. Савіч.**

20 красавіка 1928 г.
№ 83.

## Інструкцыя аб прыйманьні, пераводах і выпусках дзяцей у дашкольных установах (дзіцячых садох і ачагох).

1. У малодшую групу дзіцячага саду ці ачагу прымаюцца дзеці з 3 гадоў. Дзеці 5 і 6 гадоў прымаюцца толькі тады, калі ў групе дзяцей адпаведнага веку ёсьць вольныя месцы.

Дзеці прыймаюцца радаю дзіцячага саду ці ачагу адзін раз у год, у канцы жніўня месяца. Калі ў сярэдзіне году выбываюць дзеці з тае ці іншае групы, то замест выбыўшых могуць быць прыняты новыя дзеці.

*Увага.* Пастановы рады дзіцячага саду ці ачагу аб пытаньнях прыйманьня канчатковы і ня могуць абскарджвацца.

3. Рабочыя, сяляне і служачыя, якія жадаюць аддаць сваіх дзяцей у дзіцячы сад ці ачаг, падаюць аб гэтым заяву з даведкамі аб годзе нараджэньня, аб стане здароўя (ад амбуляторыі або лекара), аб належнасьці да прафэсіянальнага саюзу беспасрэдна ў бліжэйшую дашкольную ўстанову (беларускую, яўрэйскую, польскую і інш.) у залежнасьці ад таго, на якой мове гаворыць дзіця дома.

*Увага.* У заяве павінна быць паказана, чым займаюцца бацькі (матка і бацька), колькі яны зарабляюць у месяц, склад сям'і, паказаўшы век дзяцей, ці ёсьць хатняя працаўніца або асоба, што яе замяняе, адрас заўніка.

4. Заявы прымаюцца ад 1-га да 15-га жніўня.

5. Да прыйманьня дзяцей члены рады саду ці ачагу, павінны зрабіць абсьледваньне матар'яльнага стану і ўмоў хатняга жыцьця сям'і. Вынікі абсьледваньня павінны быць прыняты пад увагу пры разглядзе заяў аб залічэньні ў дзіцячы сад ці ачаг.

6. У дзіцячыя сады і ачагі гарадзкіх мясцовасьцяй дзеці прымаюцца ў наступнай чарзе: а) дзеці з ясьляў, б) дзеці матак адзіночак, якія працуюць на прадпрыемствах, в) дзеці рабочых, бацькі якіх працуюць і ня маюць пры кім пакінуць дзяцей, г) дзеці служачых у Чырвонай Арміі, д) дзеці рабочых, якія маюць вялікую сям'ю; е) дзеці членаў саюзаў, якія служаць ва ўстановах, ж) дзеці саматужнікаў, з) дзеці бяднейшага насельніцтва.

7. У дзіцячыя сады сельскіх мясцовасьцяй у першую чаргу прымаюцца дзеці: сялянак-бяднячак, батрачак, батракоў, сялянак-адзіночак.

*Увага да п. п. 1 і 7.* Дзеці работніц, якія працуюць на прадпрыемствах, прымаюцца ў першую чаргу.

8. Хворыя і дэфэктыўныя дзеці ў дзіцячыя сады і ачагі ня прымаюцца.

9. У кожняй групе дзіцячага саду і ачагу дзеці могуць быць толькі адзін год і ў новым навучальным годзе павінны быць пераведзены ў наступную групу.

*Увага 1.* У асобных выпадках дзеці могуць пакідацца радаю гэтай установы на другі год у групе, але ня больш аднаго разу за ўвесь час знаходжаньня яго ва ўстанове.

*Увага 2.* Дзеці, на якіх не ўплывае выхаваньне і якія затрымоўваюць разьвіцьцё группы могуць быць пасьля мэдыка-пэдалёгічнага дасьледваньня звольнены пастановаю рады ўстановы.

10. Дзеці старэйшай групы дзіцячага саду ці ачагу, якім міне да пачатку новага навучальнага году восем гадоў, без выпытаў прымаюцца ў першую групу працоўнай школы.

*Увага.* Дзеці работніц, што працуюць на прадпрыемствах, і дзеці матак-адзіночак, якія скончылі дзіцячы сад ці ачаг і па гадох (менш 8 гадоў) ня могуць быць прыняты ў першую групу, арганізавана перадаюцца ў 0 групу, у якую і прымаюцца прыймоваю камісіяю данай школы ў першую чаргу без усякіх выпытаў.

11. Выпускі дзіцячага саду ці ачагу адбываюцца ў пачатку жніўня месяца, паводле пастановы рады ўстановы.

Дашкольны Інспэктар **Л. Папова.**

## 15. Пастанова Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

ПРА ЗЬМЕНЫ Ў СВАЁЙ ПАСТАНОВЕ ЗА 9 МАЯ 1927 ГОДУ № 85 „АБ ТЭРМІНАХ ПАЧАТКУ І СКАНЧЭНЬНЯ НАВУЧАЛЬНАГА ГОДУ Ў НАВУЧАЛЬНЫХ УСТАНОВАХ БССР".

Народны Камісарыят Асьветы БССР пастанаўляе:

1. Пункт IV пастановы Народнага Камісарыяту Асьветы „Аб тэрмінах пачатку і сканчэньня навучальнага году ў навучальных Установах БССР" (Бюлетэнь СНК БССР за 1927 год, № 10) скасаваць.
2. Замест яго запісаць пункт наступнага зьместу:

„У зьвязку з тым, што да пачатку навучальных заняткаў робяцца залікі, прыманьне вучняў у навучальныя ўстановы і іншая падрыхтоўчая работа, пачатак працы пасьля канікул для адміністрацыйнага, пэдагагічнага і ўсяго тэхнічнага пэрсаналу, вызначыць на два тыдні раней тэрмінаў, паказаных у п. п. I, II і III паказанай вышэй пастановы".

Нам. Народнага Камісара Асьветы БССР **П. Валасэвіч.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Асьветы **Ю. Савіч.**

30 красавіка 1928 г.
№ 91.

---

Узгоднена з Народным Камісарыятам Унутраных Спраў БССР.

## 16. Абежнік Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР

ПРА ДАЧУ РАЁННЫМ ВЫКАНАЎЧЫМ КАМІТЭТАМ ПРАЎ ВАРОЧАЦЬ І ЗАЛІЧАЦЬ ПЕРАПЛАТЫ ПА ДЗЯРЖАЎНЫХ ПАДАТКАХ І НЕПАДАТКОВЫХ ДОХОДАХ.

*Усім акруговым фінансавым адзелам.*

*Копія—ўсім скарбовым часткам пры ўстановах Дзяржаўнага Банку,*

Для разьвіцьця пастановы ЦВК і СНК БССР за 22 сьнежня 1927 г. „Пра рэарганізацыю і спрашчэньне савецкага апарату і пра пашырэньне праў мясцовайулады" (З. З. БССР 1928 г., № 6, арт. 36) і для палегчаньня мясцоваму насельніцтву магчымасьці атрыманьня належачых яму сум, Народны Камісарыят Фінансаў БССР пастанавіў даць правы раённым выканаўчым камітэтам па раённых фінансавых частках варочаць і залічаць пераплаты па дзяржаўных беспасрэдных падатках і варочаць няправільна ўзятыя ці зьнятыя дзяржаўныя непадатковыя даходы (штрафы за лесапарушэньні, лясныя даходы і інш.), што паступілі ў дануую раённую фінансавую частку.

Дача раённым выканаўчым камітэтам права варочаць і залічаць пераплаты па дзяржаўных беспасрэдных падатках зьвязана з тым, што у раённых фінансавых частках, як правіла, вядзецца акладнае рахаўніцтва на кожнага платніка, даведкі якога аб сапраўднасьці пераплат зьяўляюцца патрэбнымі для магчымасьці разгляду пытаньняў аб залічэньні ці зваротах. З гэтай прычыны права залічаць ці варочаць пераплаты па дзяржаўных беспасрэдных падатках не пашыраецца на тыя раённыя выканаўчыя камітэты, дзе няма акладнога рахаўніцтва (Гомельская акруга).

Пры ажыцьцяўленьні гэтага мерапрыемства па пашырэньні праў раённых выканаўчых камітэтаў, якое трэба ажыцьцявіць зараз-жа пасьля атрыманьня гэтага абежніку, трэба выконваць наступнае:

а) пераплаты залічаюцца аўтаматычна самаю раённаю фінансаваю часткаю без афармленьня гэтага асобнымі пастановамі, пры чым, пры залічэньні пераплат па адным падатку ў лік плацяжоў па другім падатку, павінна складацца з подпісамі загадчыка раённай фінансавай часткі і бугальтэра даведка, у якой адзначаецца, па якім падатку, у якой суме, асобна ў дзяржаўным і мясцовым бюджэце, пераплата выявілася і ў які падатак і ў якой суме ў кожны бюджэт залічана, напрыклад, па параўнальным зборы выявілася пераплата ў дзяржаўным бюджэце—2 р. 30 к. акладу і 8 к. пені і ў мясцовым бюджэце—2 р. 30 к. акладу і 8 к. пені, а разам—4 р. 76 к., якія залічаны ў падаходны падатак па дзяржаўным бюджэце па акладу —3 р. 81 к. і па мясцовым—25 проц. ці 95 к., а разам—4 р. 76 к.;

б) памянёныя ў п. „а“ даведкі раённая фінансавая частка, разам з іншымі справаздачнымі дакумэнтамі па дзяржаўным бюджэце, адсылае ў скорбовую частку;

в) скарбовая частка, на аснове атрыманых ад раённай фінансавай часткі даведак аб зробленым раённаю фінансаваю часткаю залічэньні сум пераплат па адным падатку ў лік плацяжоў па другім падатку складае належныя дакумэнты для афармленьня гэтых залічэньняў, зрабіўшы патрэбныя разрахункі паміж дзяржаўным і мясцовым бюджэтамі;

г) пераплачаныя платнікам сумы могуць зварочвацца, на падставе: заявы платніка, даведкі раённага фінасавага інспэктара, даведкі акладнога рахаўніцтва і пастановы прэзыдыуму раённага выканаўчага камітэту; пастанова складаецца паводле дадана́й да гэтага абежніку формы;

д) для таго, каб ня было выпадкаў звароту пераплат тым платнікам, якія зьяўляюцца нядоімшчыкамі па падатках, налічаных у іншых раёнах, акруговыя фінансавая аддзелы і раённыя выканаўчыя камітэты аб нядоімачнасьці платнікаў, якія жывуць у іншых раёнах, павінны своечасова пасылаць паведамленьні раённаму выканаўчаму камітэту таго раёну, дзе жыве нядоімшчык, аб спагнаньні нядоімак і калі ў момант выяўленьня пераплаты раённая фінансавая частка атрымае паведамленьне другога раённага выканаўчага камітэту ці акруговага фінансавага аддзелу, што за даным платнікам лічацца недаборы ў іншых раёнах, дык у такіх выпадках сума пераплаты не выдаецца на рукі платніку, а, як паказана ў п. „а“, складаецца даведка, у якой паказваецца, за які раён робіцца залічэньне, а скарбовая частка на аснове гэтай даведкі робіць разрахунак паміж раёнамі і бюджэтамі;

е) аб зробленых зваротах ці залічэньнях пераплат сум дзяржаўных падаткаў і надбавак у мясцовыя сродкі павінны рабіцца адзнакі на акладных картках і плацежных абвестках, паказваючы дату звароту ці залічэньня і выдадзеную ці залічаную суму;

ж) падставаю для звароту няправільна ўзятых ці зьнятых непадатковых даходаў павінны зьяўляцца: заява платніка з далучэньнем квітка, выдадзенага яму пры прыйманьньні грошай, даведка раённай фінансавай часткі аб сапраўднасьці паступленьня памянёных сум, даведка ўстановы, што адмініструе непадатковыя даходы аб належнасьці звароту, паказаўшы з якіх крыніц і колькі трэба вярнуць грошай і пастанова прэзыдыуму раённага выканаўчага камітэту аб звароце. Аб зваротах такіх сум раённая фінансавая частка павінна рабіць адзнаку на карэнчыках прыходных ардэроў;

з) для спрашчэньня разрахункаў раённай фінансавай часткі, сумы дзяржаўных падаткаў з уключэньнем проц. надбавак і адлічэньняў у мясцовыя сродкі, а таксама і дзяржаўных непадатковых даходаў, што паступілі беспасрэдна ў раённую фінансавую частку адпаведнага раённага выканаўчага камітэту, зварочваюцца апошнім цалкам за кошт касавай гатоўкі па дзяржаўных даходах, г. зн. пры вынясеньні раённым выканаўчым камітэтам пастановы аб звароце, напрыклад, пераплаты па дзяржаўных падатках, раённая фінансавая частка зварочвае за кошт дзяржаўных даходаў поўнасьцю суму пераплаты, ў тым ліку частку, што паступіла ў дзяржаўны бюджэт і частку, залічаную ў мясцовы бюджэт. Таксама раённай фінансавай часткаю варочаецца поўнасьцю за кошт дзяржаўнага бюджэту сума няправільна узятага штрафу па лесапарушэньні і частка, залічаная ў дзяржаўны бюджэт (70 проц.) і частка, адлічаная ў прэміяльны фонд (30 проц). Асоба, што атрымоўвае грошы, расьпісваецца на пастанове прэзыдыуму раённага выканаўчага камітэту аб звароце; расход у касавай кнізе запісваецца на падставе гэтай самай пастановы.

Ніякага спэцыяльнага падатку ці справаздачнасьці па апрацыях, звароту ці залічэньн памянёных сум весьці ў раённых фінансавых частках ня трэба. Дакумэнты на вернутыя сумы разам з іншымі справаздачнымі дакумэнтамі (заявы, даведкі, пастановы раённых выканаўчых камітэтаў аб звароце) адсылаюцца агульным парадкам у акруговыя фінансавыя аддзелы.

На падставе памянёных дакумэнтаў скарбовыя часткі Народнага Камісарыяту Фінансаў:

1) афармляюць адпаведнымі бухгальтэрскімі праводкамі апрацыі па залічэньні пераплат тады, калі пераплаты па адных падатках залічанні для папаўненьня плацяжоў па іншых падатках (гл. вышэй);

2) робяць разрахункі паміж бюджэтамі па апрацыях зваротаў пераплат для аднаўленьня сум дзяржаўных даходаў за кошт сродкаў мясцовых бюджэтаў на вернутыя раённымі фінансавымі часткамі з дзяржаўнага бюджэту сумы надбавак і %%-вых адлічэньняў ад дзяржаўных падаткаў і дзяржаўных даходаў, якія раней паступілі ў мясцовыя бюджэты;

3) робяць разрахункі з установамі, што карыстаюцца фондавымі сумамі %%-вых адлічэньняў ад непадатковых даходаў (штрафы за лесапарушэньні для аднаўленьня сум дзяржаўных даходаў па выпадках неналежна спагнаных штрафаў на вернутыя раённымі фінансавымі часткамі з дзяржаўнага бюджэту сумы, залічаныя раней у фонды адпаведных устаноў.

Пры гэтым трэба мець на увазе, што раённыя выканаўчыя камітэты могуць выносіць пастановы аб зваротах сум пераплат ці няправільна спагнаных сум толькі, якія паступілі беспасрэдна ў раённую фінансавую частку гэтага раённага выканаўчага камітэту.

З тае прычыны, што ажыцьцяўленьне паказанага мерапрыемства аб дачы раённым выканаўчым камітэтам праў зваротаў пераплачаных ці неправільна узятых сум зьяўляецца ня толькі новаю, але і вельмі адказнаю справаю, трэба з асабліваю увагаю растлумачыць парадак яго ажыцьцяўленьня на мясцох і наглядаць заім, каб папярэдзіць няправільныя звароты ці іншыя страты скарбу.

Народны Камісар Фінансаў БССР **В. Мікуліч.**

21 красавіка 1928 г.
№ 1100-7.

ДАДАТАК 1.

Форма.

# ПАСТАНОВА

192 г. „ “ Разгледзяўшы хадайніцтва гр. вёскі сельскага савету раёну аб звароце яму лішне спагнаных з яго грошай па падатку ў суме руб. кап., што паступілі ў касу раённай фінансавай часткі пад арт. № , Прэзыдыум Раённага Выканаўчага Камітэту, кіруючыся даведкаю раённага фінансавага інспэктара і зробленым раённаю фінансаваю часткаю разрахункам, на падставе правіл аб парадку звароту сум, якія няправільна альбо лішне паступілі ў даход скарбу, пастанаўляе:

Выдаць гр-ну

Р. к. з дзяржаўных даходаў.

Р. к. з мясцовых сродкаў раённага бюджэту

Усяго: р. к. .

Старшыня Раённага Выканаўчага Камітэту

Члены Прэзыдыуму:

Загадчык Раённай Фінансававай Часткі.

ДАДАТАК 2.

Форма.

# ПАСТАНОВА.

192 г. „ “ Разгледзяўшы хадайніцтва гр. вёскі сельскага савету раёну аб звароце яму лішне спагнаных з яго штрафных грошай за лесапарушэньні ў суме руб. кап., што паступілі ў касу раённай фінансавай часткі „ “ пад арт. № , Прэзыдыум Раёнага Выканаўчага Камітэту, кіруючыся адносінай за (Назва установы) № і зробленым раённую фінансаваю часткаю разрахункам, на падставе правіл аб парадку звароту сум, якія няправільна альбо лішне паступілі ў даход скарбу, пастанаўляе:

Выдаць гр-ну

Р. к. з дзяржаўных даходаў.

Р. к. з рэспубліканскага мясцовага бюджэту.

Р. к. з мясцовых сродкаў раённага бюджэту.

Р. к. з бягучага рахунку № Інспэкт. Лясоў.

Усяго: р. к. .

Старшыня Раённага Выканаўчага Камітэту

Члены Прэзыдыуму РаённагаВыканаўчага Камітэту

Загадчык Раённай Фінансавай Часткі

„Зацьвярджаю"
28 красавіка 1928 г. Народны Камісар Фінансаў БССР **В. Мікуліч.**

# 17. Інструкцыя Падатковага Кіраўніцтва Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР

ПРА ПАРАДАК СКЛАДАНЬНЯ РЭГІСТРАЦЫЙНЫХ КАРТАК ПЛАТНІКАЎ АДЗІНАГА СЕЛЬСКА-ГАСПАДАРЧАГА ПАДАТКУ 1928-29 г. І СЬПІСАЎ БЯДНЕЙШЫХ І НЕЗАМОЖНЫХ ГАСПАДАРАК, З ЯКІХ ЗЬНІМАЕЦЦА СЕЛЬСКА-ГАСПАДАРЧЫ ПАДАТАК.

## І. Агульныя правілы.

§ 1. Рэгістрацыйныя карткі платнікаў сельска-гаспадарчага падатку складаюцца сельскімі падлічальнымі камісіямі, утворанымі на падставе пастановы ЦВК і СНК БССР „Пра адзіны сельска-гаспадарчы падатак на 1928-29 год".

§ 2. Атрымаўшы распараджэньне раённага выканаўчага камітэту аб рэгістрацыі платнікаў сельска-гаспадарчага падатку, сельскія саветы склікаюць агульныя сходы ўсіх грамадзян, знаёмяць іх з галоўнымі момантамі сельска-гаспадарчага падатку, парадкам правядзеньня яго, парадкам рэгістрацыі платнікаў і крыніц даходу. Сельскі савет павінен растлумачыць грамадзянам, што на падставе гэтай рэгістрацыі будуць налічвацца аклады сельска-гаспадарчага падатку і абавязковага страхаваньня і што за няправільныя паказаньні колькасьці зямлі, жывёлы і г. д. вінаватыя будуць строга карацца. Пры гэтым трэба адзначыць, што ў выніку затайкі аб'ектаў абкладаньня падатак няправільна разьмяркоўваецца па паасобных гаспадарках.

На гэтых самых сходах выбіраецца па 1-ым прадстаўніку ў сельскую падлічальную камісію ад грамадзян кожнага паселішча для ўдзелу ў рэгістрацыі платнікаў падатку свайго паселішча.

§ 3. Пасьля сходу сельская падлічальная камісія (старшыня сельскага савету, старшыня камітэту ўзаемадапамогі і выбраны прадстаўнік ад грамадзян) неадкладна пачынае рэгістрацыю платнікаў падатку на картках устаноўленай формы.

*Увага.* Да ўдзелу ў рабоце камісіі прыцягваецца сельскі страхавы ўпаўнаважаны з правам дарадчага голасу.

§ 4. Асноўным матар'ялам для падліку колькасьці зямлі, жывёлы, едакоў і сум заработкаў зьяўляюцца паселішчныя сьпісы 1927-28 г. Яны папраўляюцца і дапаўняюцца на падставе: а) паказаньняў гаспадара; б) паказаньняў суседзяў; в) запісаў у дакумэнтах і кнігах сельскага савету, раённага выканаўчага камітэту, зямельных і страхавых устаноў.

*Увага.* Катэгарычна забараняецца разьмяркоўваць па гаспадарках якія-небудзь кантрольныя лічбы аб'ектаў абкладаньня і запісваць нявыяўленыя ў гаспадарцы зямлю і жывёлу. Вінаватыя ў гэтым прыцягваюцца да адказнасьці ў крымінальным парадку.

§ 5. Гаспадары апытваюцца па дзесятках, сотнях, або кварталах, у залежнасьці ад мясцовых умоў, і ў загадзя падрыхтаваным памяшканьні (школа, хата-чытальня). Трэба, каб пры апытаньні кожнага гаспадара прысутнічала магчыма больш суседзяў.

§ 6. Паказаньні аб крыніцах даходу гаспадаркі, вялічыні неземляробчых заработкаў, колькасьці едакоў і г. д. па індывідуальных

гаспадарках дае сам гаспадар, а калі ён часова адсутнічае, дык хтонебудзь з дарослых членаў сям'і.

*Увага.* Па гаспадарках сірат паказаньні дае апякун або папячыцель, а калі яны адсутнічаюць, дык старшыня або член сельскага савету.

§ 7. Паказаньні гаспадара трэба сьпярша запісаць на асобным аркушы паперы, падлічыць усю зямлю, жывёлу, едакоў і іншае, запытацца, ці правільна запісана, і толькі пасьля таго запісаць у картку.

Калі гаспадар паказвае даход паасобных крыніц меншым, чым летась, то трэба высьвятліць у яго прычыны памяншэньня. Паказаньні аб пасеўнай плошчы трэба правяраць па наяўнасьць працаздольных членаў сям'і, рабочай жывёлы, пахаці, па колькасьці выданага насеньня і гэтак далей.

Толькі атрымаўшы ясныя і дасканальныя адказы гаспадара можна запісваць іх у картку.

8. Калі сельская падлічальная камісія не здавальняецца адказамі гаспадара, то яна павінна зрабіць фактычную праверку крыніц даходу; калі-ж пры гэтым высьвятліцца затайка, то камісія павінна скласьці аб гэтым акт і неадкладна паслаць яго ў раённы выканаўчы камітэт.

§ 9. Кожны член сельскай падлічальнай камісіі павінен актыўна удзельнічаць у апытаньні гаспадароў і ў праверцы іх паказаньняў, не дапушчаючы затайкі крыніц даходу.

§ 10. Рэгістрацыйная картка складаецца на кожную гаспадарку, незалежна ад таго, абкладаецца яна сельска-гаспадарчым падаткам, ці не.

Зямля, якая лічыцца за асобамі, што ня жывуць у гэтай вёсцы, і якая не падзелена паміж грамадзянамі гэтай вёскі, запісваецца на асобную картку.

§ 11. Арандаваная зямля (у тым ліку і арэнда з часткі) запісваецца па гаспадарцы арандатара ў адпаведныя графы карткі (пахаць, пасеў, лугі, сады, гароды) пад лічбаю, якая адзначае ўласную зямлю арандатара.

§ 12. Калі зямлю арандуюць асобы, што ня жывуць у вёсцы, дык зьвесткі аб колькасьці гэтай зямлі і аб колькасьці жывёлы па ёй запісваюцца на асобную картку з надпісам—арандаваная зямля. Зьвесткі аб колькасьці гэтай зямлі і жывёлы неадкладна дасылаюцца сельскім саветам у адпаведны раённы выканаўчы камітэт па месцы жыцьця арандатара.

§ 13. Калі гаспадарка ўвосень 1927 г. атрымала надзел зямлі, але вясной 1928 г. яшчэ фактычна не пачала ўладаць часткаю гэтай зямлі, дык гэтая частка запісваецца за асобаю, што фактычна карысталася ёю.

*Увага.* Гэта тычыцца мясцовасьцяй, дзе даходы ад паляводзтва падлічваюцца па плошчы пахаці.

§ 14. Рэгістрацыйныя карткі трэба абавязкова запаўняць атрамэнтам, або хімічным алоўкам.

§ 15. Усе запісы ў картках трэба рабіць ясна і без папраўак.

§ 16. Колькасьць зямлі паказваецца ў дзесяцінах (2.400 кв. саж.); часткі дзесяціны менш за 5/100 адкідаюцца, а часткі ад 5/100 да 9/100 лічацца за 1/10 дзесяціны. Плошчы садоў і гародаў, што

абкладаюцца паводле спэцыяльных норм даходнасьці, падлічваюцца в дакладнасьцю да 1/100 дзесяціны.

§ 17. Калі гаспадарка мае права на льготу без асобнага на тое хадайніцтва, то старшыня сельскага савету ў гр. „увага“ карткі робіць адзнаку „чырвонаармейская“ або „гаспадарка перасяленца“ і г. д. і запісвае, якая ўстанова, калі і з якім № выдала пасьведчаньне аб праве на льготу.

Дакумэнт азначаецца нумарам карткі і далучаецца да яе.

ПРЫКЛАД. Гаспадарка падае пасьведчаньне, што адзін з членаў сям'і зьяўляецца чырвонаармейцам. У графе „увага“ карткі робіцца адзнака „чырвонаармейская; пасьведчаньне за 1-IV—1928 г. № 21 з 6-га стралковага палку“, а на пасьведчаньні запісваецца № карткі гэтай гаспадаркі.

§ 18. Пасьля рэгістрацыі платнікаў падатку неадкладна робяцца ітогі падліку па кожнай графе ўсіх картак, у тым ліку і гаспадарак, што ня маюць абкладанага даходу. Атрыманыя гэткім чынам агульныя лічбы трэба дасканальна праверыць.

§ 19. Агульныя лічбы па вёсцы запісваюцца на асобную картку паселішча, прычым у графе „прозьвішча“ робіцца адзнака „разам“. Ва ўсіх іншых графах агульнае карткі паселішча, пад лічбамі за 1928-29 г. запісваюцца адпаведныя лічбы з паселішчных—сьпісаў за 1927-28 г. Калі першыя значна адхіляюцца ад другіх, то сельская падлічальная камісія павінна скласьці кароткі акт аб прычынах разыходжаньня.

§ 20. Ітогі па ўсіх картках паселішч складаюцца і запісваюцца на асобную картку па сельскім савеце.

§ 21. На кожнай паасобнай картцы старшыня сельскага савету расьпісваецца ў адпаведнай графе і ставіць пячатку сельскага савету.

§ 22. Усе карткі па кожным паселішчы складаюцца па парадку нумароў і зьвязваюцца ў сшытак.

§ 23. Складзеныя карткі неадкладна перасылаюцца з усімі дакумэнтамі і актамі ў раённы выканаўчы камітэт.

## II. Складаньне картак на асобныя сялянскія гаспадаркі.

§ 24. У графу „картка №________“ запісваецца парадкавы № гаспадара. У кожным сельскім савеце нумарацыя пачынаецца з першага нумару. Апошні № адзначае колькасьць гаспадарак у сельскім савеце, у тым ліку і тых, што ня маюць абкладанага даходу. Гэты № захоўваецца на ўвесь акладны год.

*Увага.* Калі гаспадарка, якая ішла ў 1927-28 г. пад адным №, падзялілася, дык новы двор лічыцца самастойным платнікам падатку і запісваецца пад асобным № толькі тады, калі падзел зарэгістраваны ў раённым выканаўчым камітэце і калі сельскі савет пацьвярджае, што новы двор ужо пачаў самастойна гаспадарыць. Гаспадаркі, якія ня маюць афіцыйных дакумэнтаў аб падзеле, запісваюцца пад асобнымі №№, калі падзел адбыўся даўно і гаспадаркі дагэтуль ішлі пад рознымі №№.

§ 25. Графы „прозьвішча“, „імя“, „па бацьку“ запаўняюцца без скарачэньняў, напрыклад: Л а м а к а, Сяргей Іванавіч.

*Увага.* У гэтыя графы запісваецца гаспадар,—гэта значыць асоба, зарэгістраваная ў падворным сьпісе (арт. 70 Зямельнага Кодэксу БССР).

§ 26. У гр. 1 запісваецца колькасьць едакоў у гаспадарцы. За едакоў лічацца:

а) усе грамадзяне (незалежна ад веку), якія маюць зямельны надзел у гэтай гаспадарцы, у тым ліку і асобы, якія ня жывуць у гаспадарцы;

б) асобы, якія хоць і не атрымалі надзелу, але ўвайшлі ў гаспадарку пасьля надзяленьня, як члены сям'і і стала жывуць у гаспадарцы.

У лік едакоў ня ўключаюцца:

а) асобы, якія перайшлі ў другую гаспадарку, як новыя члены сям'і гэтай гаспадаркі, а таксама асобы, што памёрлі або немаведама дзе зьніклі;

б) нанятыя рабочыя данай гаспадаркі;

в) пазбаўленыя волі паводле прысуду на тэрмін больш 1 году.

§ 27. Графа 2 запаўняецца: а) па гаспадарках, што маюць права на чырвонаармейскія льготы, або льготы для інвалідаў вайны і працы (першыя 3 групы інвалiднасьці) і б) па гаспадарках з 1-м і 2-ма едакамі ў тых мясцовасьцях, дзе падатак налічаецца па даходу на едака. У графу 2-ю запісваецца колькасьць мужчын ад 18-55 гадоў, апроч інвалідаў вайны і працы (першыя 3 групы) і віцавочных калек.

Асобы, што знаходзяцца ў Чырвонай Арміі, ня ўключаюцца ў лік працаздольных. Часовая страта працаздольнасьці (напрыклад, хвароба) не бярэцца пад увагу.

§ 28. У графу 4-ю (пад тытулам „аб'екты“) запісваецца колькасьць усяе пахатнай зямлі, што ёсьць у гаспадарцы.

У склад пахаці ўключаюцца:

а) уся фактычна засеяная плошча, ў тым ліку і пасевы сеяных траў;

б) плошчы, занятыя гародамі, незалежна ад іх вялічыні;

в) пасевы на адворыцах, на прысядзібных і сядзібных землях;

г) усе плошчы пахаці пад парам, талакою, пакладамі, пералогамі і не засеяныя па якіх-небудзь прычынах;

д) незасеяныя плошчы адворыц і прысядзібныя землі, апроч занятых пад будынкамі і дваром.

*Увага* 1. Да плошчы папару адносіцца і плошча, занятая пад так званымі „сідэрацыйнымі“ папарамі, гэта значыць пад пасевам бабовых і іншых культур, ураджай з якіх не зьнімаецца, а заворваецца, як угнаеньне.

*Увага* 2. Сядзібныя плошчы, занятыя натуральнымі травамі, што стала косяцца, ня прылічаюцца да пахаці і абкладаюцца, як лугі.

*Увага* 3. Плошчы пахаці падлічваюцца ўсюды, незалежна ад таго, як (па пахаці ці па пасевах) абкладаецца паляводзтва.

§ 29. Зямля, што знаходзіцца ў паласе адчужэньня чыгункі, незалежна ад таго, хто яе эксплёатуе, прылічаецца да складу абкладанай плошчы па гаспадарцы той асобы, якая карыстаецца гэтаю зямлёю. Даход ад яе абкладаецца на агульных падставах.

§ 30. Ня ўключаюцца ў склад палявой зямлі і не падлічаюцца:

а) грамадзкія выганы, што не заворваюцца і зьяўляюцца сталым месцам пашы;

б) плошчы ня прыгодныя для сельска-гаспадарчага карыстаньня (лугі, забалочаныя мясцовасьці);

в) плошчы, занятыя лесавымі насадкамі;

г) пасевы на шосавых абрэзках, зробленыя адміністрацыяю шасы для ўмацаваньня пакатаў.

*Увага.* Плошчы, што выкарыстоўваюцца для пашы жывёлы ў індывідуальных хутарскіх і адрубных гаспадарках, ня ўключаюцца ў склад абкладанай палявой зямлі толькі тады, калі гэтыя плошчы выдзелены ў адно месца і знаходзяцца у супольным карыстаньні хутароў і адрубнікаў.

§ 31. У графу 5-ю запісваюцца плошчы палявых і сядзібных пасеваў гаспадаркі, пералічаныя ў літ. „а", „б„ і „в" § 28; графа 5 запаўняецца ўсюды, незележна ад таго, як (па пахацproperly, ці па пасевах, падлічваецца даход ад паляводзтва.

*Увага* 1. Плошчы пасеву, што зданы ў арэнду, запісваюцца за арандатарамі.

*Увага* 2. Да плошчы пасеваў не адносяцца „сідэрацыйныя" папары (увага 1-я да § 28).

§ 32. У графу 6-ю запісваюцца ўсе зямельныя плошчы, якія не абкладаюцца сельска-гаспадарчым падаткам паводле § 33, пры гэтым:

а) у тых мясцовасьцях, дзе абкладаны даход паляводзтва налічаецца па плошчы пасеву, у графу 6-ю запісваюцца звольненыя паводле § 33 засеяныя плошчы;

б) у тых мясцовасьцях, дзе абкладаны даход паляводзтва налічваецца па плошчы пахаці, у графу 6-ю запісваюцца звольненыя паводле § 33 засеяныя і незасеяныя плошчы.

§ 33. Не абкладаюцца сельска-гаспадарчым падаткам:

1. Нягодныя землі, калі на іх робіцца мэліарацыя, і землі, якія раней не абкладаліся падаткам, землі, штучна абвільгочаныя і абвалаваныя, працягу 3-х гадоў пасьля сканчэньня на іх мэларацыйнай работы, якая рабілася за кошт земляўласьніка.

*Увага.* Паводле арт. 1-га не абкладаюцца землі, на якіх рабіліся і робяцца наступныя мэліярацыйныя і культурна-тэхнічныя мерапрыемствы:

а) будуюцца грэблі і валы, каб забяспечыць ад затапленьня землі, якія раней не выкарыстоўваліся:

б) абсушаюцца балоты і забалочаныя плошчы (пахаці і лугу), якія раней не выкарыстоўваліся, пры чым робіцца сыстэма канаў і дрэнажу;

в) робіцца залясеньне, каб абвільгаціць зямлю.

2. Плошчы, на якіх у мінулым акладным годзе рабілася раскарчоўка раней вырубаных цэлых лясных дзялянак пад пасеў і лугі.

*Увага.* У паказаную ў арт 2-м катэгорыю не ўваходзяць і абкладаюцца паасобныя дзялянкі ў лясох, ачышчаныя ад дрэў і пнёў і засеяныя.

3. Плошчы, занятыя новымі садовымі насадкамі ва ўзросьце да 10-ці год для яблынь і груш, да 6-ці год для вішань і сьліў, да 3-х год для ягадных кустоў—з моманту пасадкі на месца.

4. Завораныя плошчы лугоў да году першага ўраджаю.

5. Плошчы, занятыя пад пасевамі на насеньнікі сеяных траў (лубіну, сэрадэлі, канюшыны, цімафеяўкі).

Памянёныя ў арт. арт. 1—5 плошчы не абкладаюцца і запісваюцца ў гр. 6-ю толькі тады, калі гаспадар падасьць пасьведчаньне адпаведных зямельных установў, якое пацьвярджае права на льготу. Пры гэтым аб плошчах, паказаных у арт. 1-м, у пасьведчаньні павінна быць паказана:

а) якія мэліарацыйныя работы выкананы;
б) разьмеры мэліараванай плошчы;
в) калі і за чые сродкі праца выконвалася.

§ 34. У графу 7-ю запісваюцца: у мясцовасьцях, дзе даход ад паляводзтва падлічваецца па пахаці, усе плошчы, пералічаныя ў літ. літ. „а“—„д“ і ўвазе 1-й да § 28, пры чым з іх вылічаюцца: а) плошчы гародаў, якія перавышаюць $^1/_4$ дз. у сельскіх мясцовасьцях і $^1/_2$ дз. ў гарадох і таму абкладаюцца паводле спэцыяльных норм; б) плошчы, занятыя пад пасевы лёну, што абкладаюцца па палавінных нормах даходнасьці; в) звольненыя ад абкладаньня паводле § 33 плошчы, што запісаны ў графу 6-ю.

*Увага.* Калі ў гаспадарцы ёсьць сад, плошчаю ня больш $^1/_4$ дз. у сельскіх мясцовасьцях і $^1/_8$ дз. у гарадох, дык плошча яго дадаецца да абкладаемай плошчы пахаці-пасеву і разам з ёю запісваецца ў графу 7-ю.

§ 35. У графу 8-ю запісваецца плошча пасеваў лёну, што абкладаецца па палавінных нормах даходнасьці.

§ 36. Графы 9, 10 і 11 будуць запаўняцца толькі ў тых мясцовасьцях, дзе будзе праводзіцца страхаваньне пасеваў ад няўраджаю. Аб парадку запаўненьня гэтых граф Кіраўніцтва Дзяржаўнага Страхаваньня дасьць асобныя інструкцыі.

§ 36. У графу 12-ю запісваюцца плошчы саду гаспадаркі.

*Увага* 1. Плошчы саду менш $^1/_4$ дз. у сельскіх мясцовасьцях і $^1/_8$ дз. у гарадох таксама запісваюцца ў гр. 12, хаця яны і ўключаны ў абкладаную плошчу пахаці (гр. 7), але даход з іх налічаецца паводле норм даходнасьці паляводзтва (гр. 7).

*Увага* 2. Плошча неабасобленых садовых насадкаў падлічваецца, грунтуючыся на наступных нормах на 1 дрэва

а) для яблынь і груш —15 кв. саж.
б) для вішань і сьліў —10 кв. саж.
в) для ягадных кустоў — 3 кв. саж.

ПРЫКЛАД. У гаспадарцы ёсьць неабасобленых садовых насадкаў: 14 яблынь і груш, 9 вішань і сьліў і 20 ягадных кустоў; плошча саду складае:

15 кв. саж. × 14=210 кв. саж.
10 кв. саж. × 9= 90 кв. саж.
3 кв. саж. × 20= 60 кв. саж.
Разам: 360 кв. саж., або 0,15 дзес.

*Увага* 3. Новыя садовыя насадкі, памянёныя ў арт. 3-м § 33, ня ўключаюцца ў плошчы саду і не запісваюцца ў гр. 12-ю.

§ 37. У графу 13-ю запісваюцца плошчы гародаў, незалежна ад разьмеру іх і ад таго, увайшлі яны, ці не ўвайшлі ў гр. 7-ю; але абкладаны даход па гародах налічаецца паводле графы 13-й толькі тады, калі плошча гароду перавышае $^1/_4$ дз. у сельскіх мясцовасьцях і $^1/_8$ дз. у гарадох.

§ 38. У графы 14-ю і 15-ю запісваецца колькасьць рамачных і калодавых вульляў.

Пры гэтым:

а) падлічваюцца вульлі з перазімаваўшымі сем'ямі пчол па фактычнай колькасьці гэткіх вульляў у часы падліку;

б) кантрольныя вульлі падлічваюцца на агульных падставах;

в) маладыя раі і „наклеўсы“ (спэцыяльныя вульлі для матак), а таксама наглядальныя вульлі (для нагляду і вывучэньня пчол) не павінны падлічацца.

§ 39. У графу 17-ю запісваецца колькасьць дзесяцін заліўнога лугу, а ў графу 18-ю колькасьць дзесяцін незаліўнога лугу.

§ 40. У мясьцовасьцях, дзе ўжываюцца „залежная“ або „пералежная“ сыстэма паляводзтва, падлічваюцца лугі, што стала выкашваюцца. У іншых мясцовасьцях падлічваюцца ўсе лугі, якія ёсьць у гаспадарцы: заліўныя, незаліўныя, нізавыя, балотныя, лясныя і прысядзібныя.

§ 41. Пры падліку лугоў трэба кіравацца наступным:

1) лугі, што зарасьлі хмызьняк або лесам, падлічваюцца толькі тады, калі хмызьняк або лес займае на іх менш паловы ўсяе плошчы;

2) лугі, якія для палепшаньня іх разворваюцца пад пасеў траў, падлічваюцца, як лугі;

3) ня ўключаюцца ў абкладаньне балотныя лугі, няпрыгодныя для выкарыстаньня, гэта значыць, лугі з глебаю, насычанаю вадою і торпавыя, на якой растуць пераважна грубыя кіслыя расьліны, асака, хвашчы, мох.

§ 42. У гр. гр. 19-30 запісваецца колькасьць буйнай жывёлы па відах яе ў адпаведнасьці з тытуламі граф. Гады жывёлы, што падлічваецца, вызначаюцца на 1-е мая 1928 г.

*Увага.* Колькасьць кароў, што цяліліся (гр. 30), не вылічаецца з колькасьці кароў ад 2-2½ гадоў (гр. гр. 28 і 29).

ПРЫКЛАД. У гаспадарцы ёсьць:

2 каровы ад 2-2½ год, 1 карова 3 гадоў, пры чым яна ўжо ацялілася. У графу 28 запісваецца лічба 2, у гр. 29—лічба 1, а ў гр. 30—таксама лічба 1.

§ 43. Не абкладаюцца (арт. 47 Палажэньня пра сельска-гаспадарчы падатак) даходы асобных гаспадарак ад быкоў і жарабцоў—вытворцаў, ухваленых зямельнымі ўстановамі.

*Увага.* Аднак гэтыя быкі і жарабцы запісваюцца ў адпаведныя графы карткі (для мэтаў страхаваньня), а ў графе „заўвага“ адзначаецца колькасьць, від і гады іх.

ПРЫКЛАД. Адзнакі: „1 бык—вытворац 3½ гады. Пасьведчаньне Магілеўскага Акруговага Зямельнага Аддзелу №“.

§ 44. У гр. гр. 31 і 32 запісваецца колькасьць перазімаваўшых авечак і коз і колькасьць сьвіней, якім больш 6 месяцаў на 1 мая 1928 г.

§ 45. У графу 34-ю запісваецца назва неземляробчых заработкаў, якія ёсьць у гаспадарцы і падлічаны паводле §§ 46 і 69 (напрыклад, рахункавод капэратыву, настаўнік, кравец і г. д.)

Калі асоба працуе як нанятая, дык у графе 34 адзначаецца „наняты“ (напрыклад, плотнік наняты).

§ 46. Калі ў гаспадарцы ёсьць некалькі відаў неземляробчых заработкаў, то кожны з іх паказваецца ў асобным радку графы.

ПРЫКЛАД. Гаспадар—шавец, а сын працуе ў раённым выканаўчым камітэце. У першым радку графы паказваецца „шавец“, а ў наступным радку „супрацоўнік раённага выканаўчага камітэту“.

*Увага* 1. Калі ў графу 34 запісваецца асоба, што працуе на адходных промыслах, то трэба паказаць, паводле зьвестак, як яна працуе: як нанятая, ці сама наймае працоўную сілу. Напрыклад, „плотнік—адходнік, наняты“, або „плотнік—адходнік не наняты“. Калі-ж адходнік сам наймае рабочых колькасьць іх паказваецца ў гр. 36.

*Увага* 2. Калі асоба працуе як нанятая, у гр. 34 трэба адзначыць, дзе яна стала жыве: у сваёй гаспадарцы, ці не.

§ 47. Падлічаюцца ўсе неземляробчыя заработкі насельніцтва, якое займаецца сельскаю гаспадаркаю, гэта значыць:

а) заработная плата ад асабістай працы ў наймах;

б) адходныя промыслы;

в) саматужна-рамесныя промыслы, калі колькасьць нанятых рабочых не перавышае 3-х чалавек;

г) іншыя неземляробчыя заработкі, калі колькасьць нанятых рабочых не перавышае 3-х чалавек.

*Увага* 1. Колькасьць нанятых рабочых, паказаных у літ. літ. „в“ і „г“ гэтага §, вызначаецца па найбольшай колькасьці рабочых, якія адначасова працавалі на працягу акладнага пэрыаду. Пры гэтым выпадкова і на кароткі тэрмін (некалькі дзён) нанятыя рабочыя пад увагу не бяруцца.

*Увага* 2. Пры вызначэньні колькасьці нанятых рабочых, у лік іх уключаюцца ня толькі тыя, што працуюць ў прадпрыемстве, але і тыя, што стала працуюць для прадпрыемства на старане.

§ 48. Калі ў саматужніка-рамесьніка ёсьць вучні-падлеткі (да 18 год), дык першыя два вучні ня лічацца за нанятых рабочых; кожныя два другіх вучні лічацца за 1-га рабочага, пры чым непарная лічба вучняў лічыцца за наступную парную.

§ 49. Не абкладаюцца сельска-гаспадарчым падаткам і ў адпаведных выпадках абкладаюцца дзяржаўным прамысловым і падаходным падаткам:

1) гандаль;

2) прыватнаўласьніцкія таварныя млыны, прадугледжаныя ў арт. 24„ Перечня Из'ятий и льгот по государственному промысловому налогу“ (С. З. СССР 1928 г., № 1, ст. 4);

3) саматужна-рамесныя і іншыя заработкі, на якіх працуе больш 3 нанятых рабочых;

4) неземляробчыя заработкі, што абкладаюцца дзяржаўным прамысловым падаткам;

5) заработная плата, якую атрымоўваюць:

а) за работу ў парадку працоўнай павіннасьці;

б) за работу батраком у сельскай гаспадарцы;

в) за работу на выбарных пасадах у нізавых савецкіх установах (членаў раённых выканаўчых камітэтаў і сельскіх саветаў);

г) за работу на выбарных пасадах у камітэтах сялянскай узаемадапамогі, а таксама ў вясковых капяратывах;

д) за работу вясковага вучастковага мэдыцынскага і вэтэрынарнага пэрсаналу (дактары, дантысты, фэльчары, акушоркі і г. д.), вучастковых аграномаў і іх памочнікаў, вучастковых мэліяратараў і земляўпарадчыкаў, лясьнічых і іх памочнікаў, лясьнікоў, аб'ездчыкаў і лясных вартаўнікоў, вясковых настаўнікаў, народных судзьдзяў, сакратароў сельскіх саветаў, сельскіх лістаносцаў, сельскай міліцыі, раённых статыстыкаў, абслугоўваючага тэхнічнага пэрсаналу сельскіх больніц і школ, раённых выканаўчых камітэтаў і сельскіх саветаў;

е) за літаратурную і культурна-асьветную працу (селькораў, загадчыкаў хат-чытальняў і г. д.);

6) стыпэндыі вучняў і студэнтаў;

7) усе віды ўтрыманьня вайскоўцаў, якія карыстаюцца льготамі па сельска-гаспадарчым падатку, паводле арт. 52 Палажэньня пра сельска-гаспадарчы падатак;

8) пэнсіі, што выдаюцца з дзяржаўных установ;

9) неземляробчыя даходы каляктыўных і савецкіх гаспадарак.

*Увага* 1. Па заработках, паказаных у арт. арт. 5-8 гэтага §, у картку запісваюцца наяўнасьць гэтых заработкаў, а таксама і сумы даходу. Па іншых заработках, пералічаных у арт. арт. 1-4 і 9 гэтага §, запісваецца ў картку толькі назва заработкаў.

*Увага* 2. Да таварных млыноў, прадугледжаных у арт. 2 гэтага §, належаць прыватнаўласьніцкія млыны, якія толькі або пераважна перарабляюць збожжа, скупленае прыватнымі асобамі, або загатоўленае ўласьнікамі млыноў для перапродажу мукаx. Да таварных млыноў не належаць: а) вятракі, незалежна ад колькасьці паставаў і б) вадзяныя млыны і млыны з мэханічнымі маторамі аб 1-м і 2-х паставах.

*Увага* 3. За батракоў, памянёных у літ. „б“ арт. 5-га гэтага §, трэба лічыць нанятых сельска-гаспадарчых рабочых і работніц (у тым ліку і пастухоў), якія працуюць у наймах у паасобных гаспадарках, у груп гаспадароў, у каляктыўных і савецкіх гаспадарак і г. д. За батракоў нельга лічыць: а) кваліфікаваных рабочых спэцыялістаў, напрыклад: садоўнікаў, гароднікаў, трактарыстаў і б) пастухоў падрадчыкаў, якія падрадзіліся пасьвіць жывёлу, але самі яе не пасьвяць, а наймаюць падпаскаў і пастушкоў; калі падпаскі і пастушкі наймаюцца грамадою, то пастух ня лічыцца падрадчыкам.

§ 50. Неземляробчыя зeработкі асоб, якія стала жывуць у другой мясцовасьці, абкладаюцца сельска-гаспадарчым падаткам толькі тады, калі гэтыя асобы зьяўляюцца членамі двара і маюць у ім зямельны надзел.

*Увага*. Грашовая або іншая выпадковая дапамога, якую даюць у гаспадарку асобы, што не ўваходзяць у склад двара, не падлічваецца.

§ 51. Падлічаюцца сумы заработкаў, фактычна атрыманыя гаспадаркаю за час з 1 мая 1927 г. да 30 красавіка 1928 г. уключна.

§ 52. Неземляробчыя заработкі, якія залічаліся ў абкладаньне прамысловым і падаходным падаткамі ў 1927-28 г., калі яны абкладаюцца сельска-гаспадарчым падаткам у 1928-29 г., падлічваюцца для абкладаньня не за ўвесь акладны год, а толькі з 1-га кастрычніка 1927 г. да 1 мая 1928 г.

§ 53. За заработную плату лічыцца ўтрыманьне за асабістую працу ў наймах, незалежна ад таго, ў якім прадпрыемстве, установе, гаспадарцы (дзяржаўнай і грамадзкай ці прыватнай) працуе асоба і не залежна ад характару і даўжыні працы і спосабаў аплаты яе.

§ 54. У заработную плату, што падлічаецца, уключаецца заработак усіх відаў (асноўная плата, плата за звыштэрміновую працу, прэміяльныя, нагрузка і г. д.), які атрымалі за мінулы акладны год працаўнікі, што стала жывуць у гаспадарцы, а таксама і не ў гаспадарцы. Ніякіх вылічэньняў на выдаткі на праезд, прафэсіянальныя ўносы і г. д. ня робіцца.

*Увага.* Пры падлічэньні заработнай платы, у яе не ўваходзяць:

а) грошы, якія асоба атрымала па сацыяльным страхаваньні і беспрацоўі,
б) грошы атрыманыя ад наймальніка на лячэньне за яго кошт.
в) кампэнсацыі за нескарыстаны водпуск,
г) выдачы па камандыроўках і пры перамяшчэньнях, прадугледжаныя законам,
д) кошт праезду па чыгунцы выданы наймальнікам для разьездаў па службовых справах,
е) выхадная плата, якая выдаецца пры звальненьні з працы паводле закону.

§ 55. Да асоб, што атрымоўваюць заработную плату і стала жывуць у гаспадарцы, належаць і тыя, якія працуюць на прадпыемстве або ўстанове па-за месцам знаходжаньня гаспадаркі, але часта (штодзень або некалькі раз утыдзень) бываюць у сваёй гаспадарцы.

§ 56. Разьмеры заработнай платы ад працы ў наймах вызначаюцца на падставе даведак ад установаў, прадпрыемстваў і прыватных асоб; гэтыя даведкі павінен падаць платнік.

Калі даведка не пададзена ў час падлічэньня аб'ектаў абкладаньня, то разьмеры заработнай платы вызначаюцца паводле паказаньняў ведаючых асоб і паводле іншых зьвестак.

§ 57. Да адходных промыслаў належаць работы, зьвязаныя з часоваю адлучкаю работніка з месца свайго сталага жыцьця, напрыклад, рабочых-будаўнікоў, рабочых па сплаву лесу, гарнякоў і г. д.

*Увага.* Да адходнікаў не належаць асобы, якія ідуць на заработкі з гаспадаркі, але штодзень або некалькі раз у тыдзень бываюць у ёй.

§ 58. Разьмеры даходу адходнікаў вызначаюцца паводле паказаньняў платнікаў, ведаючых асоб і іншымі спосабамі.

Пры гэтым бярэцца пад увагу:

1) ці мае адходнік якую-небудзь спэцыяльнасьць і кваліфікацыю, або зьяўляецца чорнарабочым;
2) звычайны заработак гэтай катэгорыі рабочых;
3) час, на працягу якога ён працаваў у адходзе.

*Увага.* Платнікі маюць права пацьвердзіць сапраўдны разьмер заработку дакумэнтамі, напрыклад: асобы, якія працавалі ў адходзе ў наймах,—пасьведчаньнямі або даведкамі з месца працы і г. д.

§ 59. Пры падлічэньні даходу ад адходных заработкаў, бярэцца сума заработку за час з 1 мая 1927 г. да 30 красавіка 1928 г.; ніякіх вылічэньняў на выдаткі па адходу ня робіцца.

§ 60. Да саматужна-рамесных заработкаў, даходы ад якіх падлічваюцца і абкладаюцца сельска-гаспадарчым падаткам, належаць ўсе віды промыслаў, незалежна ад таго, якая гэта вытворчасьць, ёсьць ці няма мэханічных рухавікоў і дзе працуе саматужнік-рамесьнік: у сваёй хаце, ці ў спэцыяльным памяшканьні.

§ 61. Даходы суўласьнікаў саматужна-рамесных прадпрыемстваў павінны падлічацца і абкладацца тады,

а) калі ўсе, або частка суўласьнікаў займаюцца сельскаю гаспадаркаю і

б) калі ў прадпрыемстве колькасьць суўласьнікаў і нанятых рабочых не перавышае 4 чалавек.

*Увага.* Прадпрыемствы суўласьнікаў, якія маюць больш 4 суўласьнікаў і нанятых рабочых, абкладаюцца дзяржаўным прамысловым і падаходным падаткамі.

§ 62. Даход саматужнікаў-рамесьнікаў вызначаецца паводле паказаньняў платнікаў, якія правяраюцца паказаньнямі суседзяў, ведаючых асоб і паводле дакумэнтаў.

§ 63. Падлічаючы даходы ад саматужна-рамесных промыслаў з агульнага (валавога) даходу выключаюцца прыблізна вызначаныя выдаткі: на сырэц, апал, паўфабрыкаты і аплату нанятых рабочых.

Пры вызначэньні агульнага даходу, трэба браць пад увагу (аднак, ня робячы падрабязнага разрахунку):

а) колькасьць асоб, занятых на вытворчасьці;

б) колькасьць дзён (або тыдняў) работы на працягу году, сэзоннасьць промыслу;

в) абсталяваньне прадпрыемства;

г) мясцовыя ўмовы збыту;

д) сярэдняя цана прадуктаў вытворчасьці;

е) іншыя ўмовы выгады вытворчасьці.

*Увага.* За агульны даход лічацца сумы, якія саматужнік-рамесьнік атрымаў ад продажу (за грошы або ў крэдыт) прадуктаў свае вытворчасьці, або ўся плата, якую ён атрымаў за пераапрацоўку прадуктаў (напрыклад, збожжа ў муку) або матар'ялаў заказчыка (напрыклад, кравецкая вытворчасьць).

§ 64. Сумы даходу прадпрыемстваў суўласьнікаў вызначаюцца паводле § § 62 і 63, а сума даходу кожнага з суўласьнікаў вылічаецца па частцы, якую ён мае з даходу прадпрыемства, паводле дагавору; калі няма дагавору, то сума даходаў кожнага суўласьніка вызначаецца праз дзяленьне ўсяго даходу прадпрыемства на лік суўласьнікаў.

§ 65. Даходы саматужнікаў-рамесьнікаў ад продажу сваіх прадуктаў з асобных гандлёвых памяшканьняў (што маюць характар самастойных гандлёвых прадпрыемстваў) вызначаюцца паводле §§ 62 і 63, пры чым сума даходу іх ад гандлю не бярецца пад увагу і ў адпаведных выпадках абкладаецца дзяржаўным прамысловым падаткам.

§ 66. Да іншых неземляробчых заработкаў належаць лясны заработкі, вываз, рыбацтва, паляўніцтва, здача ў наймы жылых, гандлёвых і іншых памяшканьняў, здача ў арэнду зямлі і сельска-гаспадарчых машын і прылад (малацілак, касілак, трактараў і г. д.), даход ад працы ў іншых гаспадарках з сваім канём, даходы служнікаў рэлігійнага культу і г. д.

*Увага* 1. Даходы ад рыбацтва і паляўніцтва абкладаюцца толькі ў мясцовасьцях, дзе яны маюць прамысловае значэньне. Пры гэтым з асоб, якія займаюцца паляўніцтвам і даход якіх ад паляўніцтва абкладаецца сельска-гаспадарчым падаткам, не зьнімаецца дзяржаўны паляўнічы збор.

*Увага* 2. Да „іншых“ заработкаў не належаць заработкі фурманоў за перавоз пошты паводле дагавору з Народным Камісарыятам Пошт і Тэлеграфу, калі гэтыя фурманы не наймаюць для гэтага рабочых.

*Увага* 3. Заработкі па лясных промыслах, вывазу, рыбацтву і паляўніцтву, зьвязанныя з адходам асобы з месца сталага свайго жыцьця, належаць да катэгорыі адходных заработкаў.

§ 67. Пры падлічэньні даходаў ад заработкаў, пералічаных ў § 66, бярэцца ўся сума заработку за работу па промыслу (лясным або вывазным), за здачу ў арэнду памяшканьняў, машын, за выконваньне рэлігійных абрадаў і г. д.

*Увага.* Калі па заработку ўжываецца наймовая праца, або выдаецца апал, то выдаткі на гэта вылічваюцца з агульнай сумы заработку.

§ 68. У графу 36 карткі запісваецца колькасьць нанятых рабочых, а ў графу 37—колькасьць членаў свае сям'і, што працуюць па гэтым заработку.

§ 69. У графу 38 запісваецца сума даходу па гэтым заработку, падлічаная сельскаю падлічальнаю камісіяю паводле §§ 54-67.

*Увага.* Па неземляробчых заработках, памянёных у арт. арт. 1-4 § 49, графа 38 не запаўняецца.

Па неземляробчых заработках, памянёных у арт. арт. 5-9, графа 38 запаўняецца, хоць гэтыя даходы і не абкладаюцца.

§ 70. Усе іншыя графы карткі (другі радок граф 4-15, графа 16, другі радок граф 17-32, графы 33,35 і 39—57, запаўняюцца раённым выканаўчым камітэтам пры налічэньні сум абкладаемага даходу і акладаў падатку.

§ 71. Падлічаныя і запісаныя ў картку аб'екты абкладаньня і абавязковага страхаваньня абвяшчаюцца гаспадару пад расьпіску ў гр. 3 карткі. Калі гаспадар няпісьменны, то робіцца адзнака „няпісьменны“.

## III. Складаньне картак у гарадох.

§ 72. У тых гарадох, дзе паводле пастаноў акруговых выканаўчых камітэтаў асобы, што займаюцца сельскаю гаспадаркаю, абкладаюцца сельска-гаспадарчым падаткам, аб'екты абкладаньня падлічаюцца акруговымі фінансавымі аддзеламі праз упаўнаважаных на тое супрацоўнікаў.

## IV. Складаньне картак на сельска-гаспадарчыя аб'яднаньні.

§ 73. На сельска-гаспадарчыя камуны, арцелі і таварыствы карткі складаюць беспасрэдна адпаведныя раённыя выканаўчыя камітэты на тых самых падставах, што і на індывідуальныя сялянскія гаспадаркі.

§ 74. Па таварыствах, што ужываюць супольную апрацоўку зямлі, на картку запісваецца толькі тая частка зямлі, якая знаходзіцца ў агульным карыстаньні і тады, калі гэтыя таварыствы падаюць у раённы выканаўчы камітэт:

а) копіі сваіх статутаў;

б) даведку сельскага савету, якая пацьвярджае, што зямельныя вучасткі членаў таварыства сапраўды аб'ядналы і члены таварыства сапраўды вядуць супольную апрацоўку зямлі.

§ 75. Карткі складаюцца на ўсе сельска-гаспадарчыя аб'яднаньні, незалежна ад таго, абкладаюцца яны сельска-гаспадарчым падаткам, ці не.

§ 76. У графе „прозьвішча" запісваецца назва аб'яднаньня, а ў графе 1-й дзьве лічбы: 1-я азначае колькасьць едакоў, а 2-я—колькасьць сем'яў, што ўваходзяць у аб'яднаньне.

§ 77. На ўсе аб'яднаньні складаецца агульная картка, у якую запісваюцца сумы ад падліку лічбаў у кожнай графе па ўсіх аб'яднаньнях.

§ 78. У тых гаспадарках, якія зьяўляюцца членамі сельска-гаспадарчых аб'яднаньняў і маюць, апроч грамадзкай зямлі, яшчэ і індывідуальныя надзелы, што ня ўключаны ў калякты ў, жывёла і едакі падлічваюцца ў наступным парадку:

а) едакі падлічваюцца двойчы:

1) пры падліку па індывідуальных гаспадарках;

2) пры падліку па сельска-гаспадарчым аб'яднаньні;

б) жывёла падлічваецца адзін раз; пры гэтым, калі яна хаця часткова выкарыстоўваецца ў сельска-гаспадарчым аб'яднаньні, дык яна падлічваецца па аб'яднаньні; калі-ж яна выкарыстоўваецца толькі ў індывідуальных гаспадарках, дык яна падлічваецца па індывідуальнай гаспадарцы.

§ 79. Даходы ад неземляробчых заработкаў членаў сельска-гаспадарчых аб'яднаньняў, якія не паступаюць у гэтыя аб'яднаньні, падлічваюцца за асобамі, што атрымоўваюць іх, пры гэтым:

а) калі ў члена сельска-гаспадарчага аб'яднаньня, апроч таго, ёсць і індывідуальная гаспадарка, дык неземляробчы даход абкладаецца па гэтай індывідуальнай гаспадарцы на агульных падставах;

б) калі член сельска-гаспадарчага аб'яднаньня ня мае індывідуальнай гаспадаркі, дык яго неземляробчыя заработкі не абкладаюцца сельска-гаспадарчым падаткам, а ў адпаведных выпадках абкладаюцца дзяржаўным прамысловым і падаходным падаткамі.

*Увага* Карткі па аб'яднаньнях складаюцца ў асобны сшытак.

## V. Складаньне картак на зямельныя вучасткі, што знаходзяцца ў карыстаньні школ, дзіцячых устаноў, агранамічных арганізацый, працоўных калёній, лекавых устаноў і прафэсіянальных арганізацый.

§ 80. Зямельныя вучасткі, жывёла і іншыя крыніцы даходу па гаспадарках школ, дзіцячых устаноў, агранамічных арганізацый, працоўных калёній, лекавых устаноў і прафэсіянальных арганізацый падлічаюць беспасрэдна раённыя выканаўчыя камітэты на тых картках, што і для індывідуальных гаспадарак, апроч граф 1 і 2 якія не запаўняюцца.

*Увага.* Карткі на гэтыя гаспадаркі складаюцца ў асобны, сшытак.

## VI. Складаньне картак на дзяржаўныя сельска-гаспадарчыя прадпрыемствы (савецкія гаспадаркі).

§ 81. Крыніцы даходу па ўсіх дзяржаўных сельска-гаспадарчых прадпрыемствах (савецкіх гаспарках), што знаходзяцца на дзяржаўным, або мясцовым бюджэце, або на гаспадарчым разрахунку, або прыпісаных да ўстаноў і прадпрыемстваў, па савецкіх гаспадарках мясцовага значэньня і іншых, падлічаюць акруговыя фінансавыя аддзелы.

§ 82. Зьвесткі аб крыніцах даходу савецкіх гаспадарак падаюць загадчыкі іх або прадстаўнікі іх аб'яднаньняў беспасрэдна ў акруговы фінансавы аддзел ў тэрмін, адзначаны для падліку аб'ектаў.

§ 83. Акруговым фінансавым аддзелам даецца права правяраць пададзеныя савецкімі гаспадаркамі зьвесткі.

§ 84. Падлічаюцца ўсе савецкія гаспадаркі, незалежна ад таго, абкладаюцца яны сельска-гаспадарчым падаткам, ці не.

## VII. Праверка рэгістрацыйных картак.

§ 85. Атрымаўшы з сельскага савету рэгістрацыйныя карткі, раённы выканаўчы камітэт дасканальна правярае іх, параўноўваючы з дакумэнтальнымі зьвесткамі аб плошчы зямлі, жывёлы і едакоў у кожным паселішчы, з леташнімі вынікамі падліку аб'ектаў абкладаньня і з матар'яламі страхавых органаў. Разам з тым правяраецца, ці правільна запаўняліся карткі.

§ 86. Калі будуць выяўлены значныя недападлічэньні аб'ектаў абкладаньня, то раённы выканаўчы камітэт павінен неадкладна ўжыць належныя захады да выяўленьня, а, калі трэба, то і фактычна праверыць.

§ 87. Калі будуць знойдзены ў картках няправільнасьці, то раённы выканаўчы камітэт з сваімі заўвагамі зварочвае іх у сельскі савет для выпраўленьня. Калі-ж сельскі савет ня згодзен з заўвагамі раённага выканаўчага камітэту, то ён павінен скласьці асобны акт і зноў накіроўвае карткі разам з актам у раённы выканаўчы камітэт. Калі ў картках высьвятляцца тэхнічныя памылкі, то выпраўленьне робіць раённы выканаўчы камітэт з асобнаю заўвагою на картцы і з паведамленьнем аб гэтым сельскаму савету.

*Увага.* Калі трэба, то на месца выяжджае член раённага выканаўчага камітэту, або ў апошні запрашаецца старшыня сельскага савету.

§ 89. Калі раённы выканаўчы камітэт не згодзіцца з думкаю сельскага савету, адзначанаю ў акце, дык спрэчнае пытаньне пераносіцца на разгляд раённай падатковай камісіі. Калі-ж апошняя вынясе пастанову, згодную з поглядам раённага выканаўчага камітэту, то пытаньне лічыцца вырашаным. Калі-ж камісія ня згодзіцца з поглядам раённага выканаўчага камітэту, то справа пераносіцца ў акруговую падатковую камісію, пастанова якой зьяўляецца канчатковаю.

§ 89. Пасьля праверкі картак, раённы выканаўчы камітэт падлічае крыніцы даходу па тых гаспадарках яго раёну, якія арандуюць зямлю сельскага савету. Для гэтага раённы выканаўчы камітэт складае колькасьць зямлі і жывёлы па картках такіх арандатараў з тымі крыніцамі іх даходу, якія падлічаны ў іншых паселішчах або раёнах, паводле зьвестак адтуль, і запісвае гэтыя весткі ў графу „увага".

§ 90. У картцы гаспадаркі, па якой падлічана арандаваная зямля, у графе „увага“ робіцца адзнака аб тым, што падлічаныя ў арандатара крыніцы даходу абкладзены па месцы жыцьця яго, а калі арандаваная зямля знаходзіцца ў іншым раёне, то аб абкладаньні гэтай зямлі па месцы жыцьця арандатара паведамляецца адпаведны раённы выканаўчы камітэт праз пасылку копіі карткі.

§ 91. Вынікі падліку па кожны паселішчы і сельскім савеце зацьвярджаюцца пратакольнаю пастановаю раённага выканаўчага камітэту.

§ 92. На прысланых сельскім саветам і праверанных картках раённы выканаўчы камітэт налічае сумы абкладаемага даходу і аклады падатку, паводле асобных інструкцый Народнага Камісарыяту Фінансаў; пасьля таго з картак зьнімаюцца копіі, якія астаюцца ў раённым выканаўчым камітэце, а першыя экзэмпляры картак зварочваюцца ў сельскі савет.

*Увага.* У залежнасьці ад забясьпечанасьці тэхнічнымі сіламі раённы выканаўчы камітэт мае права даручыць сельскім саветам складаньне копій з картак і налічэньне абклаадемага даходу і акладаў падатку, аднак, з дасканальнаю праверкаю гэтай працы.

## VIII. Складаньне сьпісаў бяднейшых і незаможных гаспадарак.

§ 93. Адначасна з падлікам крыніц абкладаемага даходу сельская падлічальная камісія складае сьпіс бяднейшых і незаможных гаспадарак, якія не павінны зусім абкладацца падаткам.

§ 94. У гэтым сьпісе паказваецца: а) прозьвішча гаспадара, б) № рэгістрацыйнай карткі, у якую запісаны крыніцы даходу яго гаспадаркі, в) плаціў, ці не плаціў гаспадар падатак у мінулым акладным годзе, г) калі плаціў, дык колькі (ўвесь, ці частку), д) матывы, на падставе якіх сельская падлічальная камісія лічыць патрэбным не абкладаць гаспадарку падаткам.

§ 95. Пры складаньні сьпісаў бяднейшых і незаможных гаспадарак, сельская падлічальная камісія павінна ўсебакова і дасканальна ўзважыць ўсе акалічнасьці і ўмовы, у якіх знаходзіцца тая ці іншая гаспадарка. Пры гэтым трэба ў першую чаргу браць пад увагу і ўключаць у сьпісы:

а) гаспадаркі, якія пры невялікай забясьпечнасьці зямлёю і пры адсутнасьць сталых заработкаў, ня маюць буйнай (рагатай і рабочай) жывёлы, або маюць яе ня больш 2 штук (1 конь, 1 карова);

б) гаспадаркі, якія нават пры сярэдняй забясьпечанасьці зямлёю, з прычыны недастачы жывёлы і рабочых рук, ня маюць магчымасьці атрымоўваць нармальны даход з паасобных крыніц і прымушаны недасяваць частку зямлі і карыстацца нанятаю цягаваю і рабочаю сілаю.

в) гаспадаркі ўдоў, сірат, кутнікаў і інш. гаспадаркі, якія, з прычыны тых ці іншых няшчасьцяў і ўмоваў, ня маюць магчымасьці плаціць падатак;

г) незаможныя гаспадаркі чырвонаармейцаў і чырвонафлётцаў для якіх прадугледжаная законам льгота па сельска-гаспадарчым падатку зьяўляецца ў паасобных выпадках недастатковаю.

*Увага.* Пры складаньні сьпісаў, камісія прытрымоўваецца прыблізнай колькасьці гаспадарак, што не абкладаюцца падаткам папярэдня вылічанай раённым выканаўчым камітэамт.

§ 96. Складзены камісіяю сьпіс павінен быць разгледжаны на сходзе грамадзян. Усе зробленыя на гэтым сходзе папраўкі (прынятыя большасьцю галасоў) уносяцца ў сьпіс, калі камісія згаджаецца з імі. У адваротным выпадку гэтыя папраўкі запісваюцца ў пратакол сходу, як прапановы грамадзян.

§ 97. Разгледжаны на сходзе грамадзян сьпіс з усімі прынятымі папраўкамі падпісваецца членамі сельскай падлічальнай камісіі.

*Увага.* Калі паасобныя члены камісіі аб тэй ці іншай гаспадарцы асталіся з асобнаю думкаю, то гэтая думка іх запісваецца ў канцы сьпісу.

§ 98. Сьпісы і пратаколы сходаў, што разглядалі гэтыя сьпісы, перасылаюцца ў раённы выканаўчы камітэт адначасна з рэгістрацыйнымі карткамі па падліку крыніц даходу.

§ 99. Падлічыўшы на картках абкладаемы даход і аклад падатку па кожнай паасобнай гаспадарцы, раённы выканаўчы камітэт павінен: а) выключыць з сьпісу тыя гаспадаркі, даход якіх не перавышае абкладаемага мінімуму, паказанага ў арт. 35 Палажэньня пра сельска-гаспадарчы падатак; б) падлічыць і паставіць у сьпісе сумы акладаў па кожнай з іншых гаспадарак, уключаных у сьпіс; в) разглядзець гэты сьпіс па сутнасьці і з боку колькасьці гаспадарак, што не абкладаюцца падаткам, і патрэбных для гэтага сум скідачнага фонду.

§ 100. Сваё заключэньне разам з сьпісам і пратаколам агульнага сходу раённы выканаўчы камітэт перадае ў раённую падатковую камісію. Апошняя разглядае ўвесь матар'ял на падставе зьвестак аб платаздольнасьці тэй ці іншай гаспадаркі.

*Увага.* Сума падатку, зьнятая з незаможных гаспадарак (апроч гаспадарак, з якіх зьнят падатак па неабкладаемаму мінімуму даходаў), ня можа перавышаць сумы скідачнага фонду, вызначанага для раёну пастановаю акруговага выканаўчага камітэту.

§ 101. Паасобныя неплатаздольныя гаспадаркі, ня ўключаныя сельскаю падлічальнаю камісіяю ў сьпіс, маюць права на працягу тыдня пасьля складаньня сьпісу падаць праз сельскі савет хадайніцтва аб зьняцьці з іх падатку. Сельскі савет павінен разам з сьпісам, або не пазьней 3-х дзён пасьля падачы хадайніцтва, пераслаць яго з сваім заключэньнем у раённы выканаўчы камітэт для разгляду ў раённай падатковай камісіі.

§ 102. Пастановы раённай падатковай камісіі па сьпісах і паасобных хадайніцтвах зьяўляюцца канчатковымі і абвяшчаюцца зацікаўленым грамадзянам праз сельскі савет пад расьпіску.

§ 103. Уся праца па разгляду сьпісаў павінна быць скончана ў такі тэрмін, каб гаспадаркі, якія не абкладаюцца падаткам, не атрымалі акладных лістоў.

Начальнік Падатковага Кіраўніцтва НКФ БССР **М. Кардашэнка.**

Ст. Інспэктар па сельска-гаспадарчым падатку **М. Кірык.**

---

## 18. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

### Пра ўстанаўленьне гранічных набавак на будаўнічыя матар'ялы.

На падставе п. п. „м“ і „о“ арт. 4 Часовага Палажэньня аб Народным Камісарыяце Унутранага Гандлю БССР Народны Камісарыят Гандлю БССР пастанаўляе:

1. Устанавіць наступныя гранічныя набаўкі на будаўнічыя матар'ялы:

### А. Цэмэнт.

Для зьмены свае пастановы № 23 за 30/VIII 1926 году (надрук. у „Зборніку абавязковых пастаноў Народнага Камісарыяту Гандлю БССР аб гранічных набаўках за 1926 г.“), устанавіць наступныя гранічныя набаўкі на цэмэнт:

д) усіх дзяржаўных і каперацыйных арганізацый БССР:

1) Прадаючы агулам (з калёс) ад 100 бочак і больш—3 проц. на адпускную цану заводу;

2) Прадаючы агулам (з складу) ад 100 бочак і больш—6 проц. на адпускную цану заводу;

3) Прадаючы напалову агулам (з складу) больш 10-ці да 100 бочак—9 проц. на адпускную цану заводу;

4) Прадаючы нарозна ад 10-ці бочак і менш—12 проц. на адпускную цану заводу.

*Увага.* Да паказаных вышэй набавак на цэмэнт дадаецца фактычны кошт дастаўкі“.

### Б. Вапна.

Устанавіць для усіх дзяржаўных і каперацыйных арганізацый БССР гранічную набаўку пры нарозным гандлі у разьмеры 15 проц. на пакупную цану.

### В. Оліфа.

Устанавіць для ўсіх дзяржаўных і каперацыйных арганізацый гранічную набаўку:

а) пры гандлі напалову агулам 5,5 проц. (на адпускную цану заводу);

б) пры нарозным гандлі 12 проц. (на адпускную цану заводу).

*Увага.* Да гэтых набавак на аліфу налічваецца фактычны кошт дастаўкі ад заводу да месца рэалізацыі.

2. Вінаватыя ў парушэньні гэтай пастановы прыцягваюцца да адказнасьці паводле арт. 141 Крымінальнага Кодэксу.

Нам Народнага Камісара Гандлю БССР **М. Брыскін.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Гандлю БССР **К. Верамейчык.**

3 красавіка 1928 г.
№ 31.

## 19. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

ПРА ЗЬМЕНУ АРТ. 3 СВАЕ ПАСТАНОВЫ ЗА 12 СТУДЗЕНЯ 1928 ГОДУ № 6 „О ПОРЯДКЕ СДАЧИ БОЕНСКОГО КИШСЫРЬЯ В ПЕРЕРАБОТКУ"

Для зьмены арт. 3 свае пастановы за 12 студзеня 1928 г. № 6 Народны Камісарыят Гандлю БССР пастанаўляе:

1. Устанавіць з 10 красавіка 1928 году плату для дзяржаўных і каперацыйных арганізацый і прыватных асоб за апрацоўку кішачнага сырцу на рэзьніцах БССР у наступным разьмеры:

| | | |
|---|---|---|
| а) ялавічнага. . . . . . . . | 3 р. 50 коп. | за камплект |
| б) бараньняга і авечага . . . . . | 80 „ | „ |
| в) свінога . . . . . . . . . . . | 80 „ | „ |
| г) цялячых страўнікаў . . . . . | 20 „ | за штуку. |

2. У іншым пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР за 12 студзеня 1928 г. цалкам пакідаецца у сіле.

Народны Камісар Гандлю БССР **Я. Адамайціс.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Гандлю БССР **К. Верамейчык.**

9 красавіка 1928 г.
№ 32.

---

## 20. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

ПРА ЎСТАНАЎЛЕНЬНЯ ГРАНІЧНЫХ ГУРТОВА—АДПУСКНЫХ ЦЭН НА МЭХАНІЧНЫ АБУТАК МЯСЦОВАЙ ПРАМЫСЛОВАСЬЦІ БССР.

Для патаненьня абутку мясцовай прамысловасьці БССР, Народны Камісарыят Гандлю БССР на падставе п. п. „м" і „о" арт. 4 Часовага Палажэньня аб Народным Камісарыяце Ўнутранага Гандлю БССР пастанаўляе:

1. Устанавіць наступныя гранічныя гуртова-адпускныя цэны на мэханічны абутак мясцовай прамысловасьці БССР франко-месца вырабу:

### А. Для вытворчых арганізацый саматужна-прамысловай каапярацыі БССР:

на бацінкі мужчынскія чорныя хромавыя (мэханічныя) . . . 8 р. 90 к. за пару,
на бацінкі жаночыя чорныя хромавыя мэхан. (16 ½ сант.) . . . 8 р. 30 к. за пару,
на бацінкі дзіцячыя чорныя хромавыя (ад 27 да 30 нумару уключна) . 4 р. 90 к. за пару,
на боты мужчынскія выцяжныя ялавыя 15 р. 45 к. за пару.

*Увага.* У гэтыя цэны ўваходзяць усе набаўкі, якія робіць Белсаматужпрамсаюз на папаўненьня гандлёвых выдаткаў.

### Б. Для вытворчых арганізацый Менскага Акруговага Кіраўніцтва Працоўных Калляктываў:

на бацінкі мужчынскія чорныя хромавыя . 9 р. 45 к. за пару
на бацінкі жаночыя чорныя хромавыя . . 9 р. —— за пару

2. Запрапанаваць акруговым інспэктаром гандлю (апроч Менскага) на працягу двух тыдняў з моманту апублікаваньня гэтай пастановы пераглядзець існуючыя гуртова-адпускныя цэны на мэханічны абутак вырабу адпаведаных акруговых кіраўніцтваў працоўных калектываў, каб іх зьнізіць, у залежнасьці ад мясцовых акалічнасьцяй, і устанавіць гранічныя гуртова--адпускныя цэны на паказаны абутак.

3. Вінаватыя ў парушэньні п. 1 гэтай пастановы павінны прыцягвацца да адказнасьці, паводле арт. 141 Крым. Кодэксу.

Нам. Народнага Камісара Гандлю БССР **М. Брыскін.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Гандлю БССР **К. Верамейчык.**

10 красавіка 1928 г.
№ 35.

---

## 21. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

ПРА ЗЬМЕНУ РАЗЬДЗЕЛУ „Б“ УВАГІ 2 ДА П. 1 СВАЕ ПАСТАНОВЫ ЗА 21 КРАСАВІКА 1927 г. № 29.

На падставе п. п. „м“ і „о“ арт. 4 Часовага Палажэньня аб Народным Камісарыяце Унутранага Гандлю і пастановы Народнага Камісарыяту Гандлю СССР за 2 красавіка 1928 г. (газэта „Экономическая жизнь“ № 84 (2803) за 8/IV-28 г.) Народны Камісарыят Гандлю БССР пастанаўляе зьмяніць разьдзел „Б“ увагі 2 да п. 1 свае пастановы № 29 за 21 красавіка 1928 г. (надр. ў „Зборніку пастаноў Народнага Камісарыяту Гандлю БССР аб гранічных набаўках на прамысловыя тавары за 1927 г.“), запісаўшы яго у наступнай рэдакцыі:

„Нарозным продажам трэба лічыць усякі продаж скураных тавараў у разьмеры аднае таварнай адзінкі, г. зн. падэшвы, палувалу і мастаўя—не больш аднае скуры, футавага тавару (дробных скур) не больш трох скур; куртачнага шэўрэту ня больш пяці скур, краснага скуранога тавару, не больш трох пар ці камплектаў і абутку ня больш пяці пар.

Продаж хрому-апойку, хрому-вырастку і шэўра ў адны рукі не павінен перавышаць разам трох скурак“.

Нам. Народнага Камісара Гандлю БССР **М. Брыскін.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Гандлю БССР **К. Верамейчык.**

10 красавіка 1928 г.
№ 36.

---

## 22. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

ПРА ЎСТАНАЎЛЕНЬНЕ ГРАНІЧНЫХ АДПУСКНЫХ ЦЭН НА ЛЯМЕЦ

На падставе п. п. „м“ і „о“ арт. 4 Часовага Палажэньня аб Народным Камісарыяце Унутранага Гандлю БССР Народны Камісарыят Гандлю БССР пастанаўляе:

1. Устанавіць для Менскага Працоўнага Калектыву Лямошнікаў гранічную адпускную цану на лямец яго вырабу па 1 р. 41 к. за штуку будаўнічага, сьціранага 5-ці фунтовага.

2. Запрапанаваць Віцебскаму Акруговаму Інспэктару Гандлю пераглядзець існуючую адпускную цану на будаўнічы лямец Віцебскага Працоўнага Калактыву Лямошнікаў, каб зьнізіць яе, і устанавіць гранічную адпускную цану на апошні, у адпаведнасьці з цаною, устаноўленаю п. 1 гэтай пастановы для Менскага Працоўнага Калактыву.

3. Вінаватыя ў парушэньні п. 1 гэтай пастановы павінны прыцягвацца да адказнасьці паводле арт. 141 Крым. Кодэксу

Нам. Народнага Камісара Гандлю БССР **М. Брыскін.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Гандлю БССР **К. Верамейчык.**

13 красавіка 1928 г.
№ 37.

---

## 23. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

ПРА ПАШЫРЭНЬНЕ НА ПРЫВАТНЫХ ГАНДЛЯРОЎ-СКУПШЧЫКАЎ СЯЛЯНСКАГА ПАЛАТНА ЗАГАТОЎЧЫХ ЦЭН, ШТО ІСНУЮЦЬ ДЛЯ ДЗЯРЖАЎНЫХ І КАПЕРАЦЫЙНЫХ АРГАНІЗАЦЫЙ.

З тае прычыны, што прыватныя гандляры-скупшчыкі сялянскага палатна ўносяць дэзарганізацыю і перашкаджаюць правільнаму ходу загатоўчай працы дзяржаўных і каперацыйных арганізацый ў галіне загатоўкі сялянскага палатна, Народны Камісарыят Гандлю БССР, на падставе п. п. „в“, „м“ і „о“ артыкулу 4 Часовага Палажэньня аб Народным Камісарыяце Гандлю, п а с т а н а ў л я е:

1. Пашырыць на ўсіх прыватных гандляроў-скупшчыкаў сялянскага палатна паказаныя ніжэй загатоўчыя цэны, што існуюць для дзяржаўных і каперацыйных арганізацый пры вядзеньні імі загатовак памянёнага палатна, а іменна:

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Палатно | № 1 . . | 35 | кап. | за мэтр, | шырынёю | ня | вужэй | —60 сант. |
| „ | № 2 . . | 30 | „ | „ | „ | „ | „ | —60 „ |
| „ | № 3 . . | 25 | „ | „ | „ | „ | „ | —70 „ |
| „ | № 4 . . | 22 | „ | „ | „ | „ | „ | —70 „ |
| „ | № 5 . . | 20 | „ | „ | „ | „ | „ | —70 „ |

*Увага.* На вужэйшае палатно робіцца адпаведная скідка на кожны сантымэтр, грунтуючыся на паказаных у гэтым пункце цэнах.

2. Усе прыватныя гандляры, што скупляюць сялянскае палатно, мясцовыя, а таксама і тыя, якія прыбываюць з іншых месц у БССР, павінны рэгістравацца ў акруговых інспэктароў гандлю, маючы пры сабе патэнты адпаведных разрадаў.

*Увага* 1. Акруговыя інспэктары гандлю, рэгіструючы прыватных скупшчыкаў палатна, вызначаюць ім пэўны раён для скупкі, аб чым робяць адпаведную адзнаку на патэнтах.

*Увага* 2. Прыватныя скупшчыкі могуць ажыцьцяўляць памянёныя апярацыі толькі ў раёнах, адведзеных акруговымі інспэктарамі гандлю.

3. Скупка і гандаль сялянскім палатном бязумоўна забараняецца гандлярам-скупшчыкам, незарэгістраваным у органах Народнага Камісарыяту Гандлю.

4. Нагляд за выкананьнем гэтай пастановы ўскладаецца на акруговых інспэктароў гандлю і органы Рабоча-Сялянскай Міліцыі.

5. Вінаватыя ў парушэньні гэтай пастановы прыцягваюцца да адказнасьці паводле арт. 141 Крым. Кодэксу.

6. Гэтая пастанова ўваходзіць у сілу з моманту яе апублікаваньня.

Народны Камісар Гандлю БССР **Я. Адамайціс.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Гандлю БССР **К. Верамейчык.**

Узгоднена з Народным Камісарыятам Унутраных Спраў БССР—
Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР **Я. Кроль.**

18 красавіка 1928 г.
№ 58.

---

## 24. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю і Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

ПРА ЗАХАДЫ ЗМАГАНЬНЯ З СЬВІРНАВЫМІ ШКОДНІКАМІ.

Для ажыцьцяўленьня пляновага змаганьня з шкоднікамі збожжа і прадуктаў яго пераапрацоўкі, каб зьнішчыць заражэньне збожжа і прадуктаў яго пераапрацоўкі праз склады, тару і чыгуначныя і водныя сродкі зносін на падставе пастановы Савету Працы і Абароны за 2 лютага 1926 г. і пастановы Эканамічнай Нарады БССР за 7 лютага 1928 г. № 2501/9, Народны Камісарыят Гандлю і Народны Камісарыят Земляробства БССР пастанаўляюць:

1. Усе дзяржаўныя, каперацыйныя і прыватныя арганізацыі і асобы, што загатаўляюць, пераапрацоўваюць, захоўваюць або транспартуюць збожжа і прадукты яго пераапрацоўкі, павінны абчысьціць ад пылу, гразі і россыпаў склады, пакгаўзы, элеватары, млыны і крупадзёркі, якія знаходзяцца ў іх фактычным карыстаньні, а таксама сродкі транспарту, паправіць дахі, выявіць іншыя прычыны вільготнасьці памяшканьняў, залатаць дзюры ў падлозе і сьценах, зрабіць вэнтыляцыю і асьвятленьне. У заражаных складавых памяшканьнях, апроч стараннай ачысткі з адчыненьнем і ачысткаю падпольляў, павінна быць зроблена дэзынфэкцыя.

Усе работы для змаганьня з шкоднікамі запісваюцца ўласьнікамі і арандатарамі складаў у журналы становішча складаў, якія павінны весьціся пры кожным складавым памяшканьні, паводле формы, устаноўленай Дзяржаўнаю Збожжаваю Інспэкцыяю.

*Увага 1.* Гэтая пастанова пашыраецца таксама на склады і пакгаўзы ў паласе адчужэньня чыгунак, на прыстанях, водных шляхох, а таксама на сродкі чыгуначнага і воднага транспарту.

*Увага 2.* Калі захавальні збожжа будуць вельмі заражаны грызунамі (пацукамі і мышамі), то ўстановы і прыватныя асобы павінны ўжываць захады таксама і да знішчэньня іх.

2. Памянёныя ў арт. 1 арганізацыі і асобы прыцягваюць адпаведных спэцыялістаў і агэнтаў збожжавай інспэкцыі зямельных органаў і іншых устаноў для ўстанаўленьня дэфэктаў і ступені заражэньня з аплатаю адпаведных выдаткаў.

3. Чысьціцца і абеззаражваецца павіноа таксама і парожняя тара, прызначаная для ссыпкі, продажу ці захаваньня збожжа.

*Увага.* Парожняя незаражаная мяшочная тара старанна выбіваецца з выварочваньнем мяшкоў, праветрываецца, прасушваецца на сонцы і ачышчаецца мулкімі (жосткімі) шчоткамі.

Занятая незаражаная мяшочная тара ачышчаецца па меры апаражненьня такім самым парадкам. Заражаная паржняя мяшочная тара дэзынфэкцыруецца газамі, парам, высокаю тэмпэратураю і інш. Занятая заражаная тара дэзынфэкцыруецца на працягу тыдня, пасьля апаражненьня яе з пад заражанага збожжа.

4. Калі заражанае збожжа прыбывае ў тары, то апошняя, пасьля апаражненьня яе можа быць накіравана або ў бліжэйшую дэзынфэкцыйную камэру, або ў камэру пры млынох.

Ужываньне недэзынфэкцыраванай тары забараняецца, а таксама забараняецца транспартаваньне заражанай тары па чыгунках.

5. Каб недапушчаць пашырэньня заразы, заражанае збожжа павінна абеззаражвацца ўсімі магчымымі спосабамі: сушкаю, газаваю дэзынфэкцыяю, ачысткаю гаспадарчым спосабам (на сартавальнях і іншымі спосабамі), ці пераапрацоўвацца на муку на асобна адведзеных для памянёнай мэты млынох.

Для плянавага ажыцьцяўленьня паказаных мерапрыемстваў, адпаведнымі арганізацыямі да моманту паступленьня збожжа новага ўраджаю павінны быць:

а) адчынены і абсталяваны намечаныя Дзяржаўнаю Збожжаваю Інспэкцыяю і зацьверджаныя Народным Камісарыятам Гандлю карантынна-лекавыя склады;

б) выдзелены намечаныя Дзяржаўнаю Збожжаваю Інспэкцыяю і зацьверджаныя Народным Камісарыятам Гандлю млыны для перамолу заражанага збожжа;

в) арганізаваны камэры для дэзынфэкцыі тары паводле паказаньня акругова інспэктара гандлю.

6. Без перашкоды можа ісьці ў зварот толькі збожжа ў першай ступені заражэньня;

*Увага 1.* Усё заражанае ў другой і трэцяй ступені збожжа, якое паступае ў пакгаўзы чыгуначных станцый і прыстаняў, пры адгрузках і прыбыцьці трэба ізаляваць ад здаровага збожжа ў карантынных і лекавых памяшканьнях, станцыях, прыстанях, ці адпраўляць.

*Увага 2.* Усе адходы, якія выходзяць пры ачыстцы заражанага збожжа і прадуктаў яго пераапрацоўкі, павінны зьнішчацца (калі яны малакаштоўны) або абеззаражвацца магчымымі сродкамі (дэзынфэкцыя, перамол і інш.) і ні ў якім выпадку ня могуць выпускацца ў продаж неабеззаражанымі.

7. Вагоны, у якіх перавозілася заражаная збожжа або прадукты пераапрацоўкі ва ўсялякай ступені заражаньня, прамываюцца парам зараз пасьля разгрузкі, належна ад таго, пад якія грузы яны ў далейшым прызначаюцца.

*Увага.* Калі збожжа абеззаражваецца газамі ў вагонах, то ў апошніх пасьля разгрузкі дэзынфэкцыя ня робіцца.

8. Заражаныя шкоднікамі склады, элеватары, пакгаўзы, млыны і крупадзёркі, апарожненыя ад збожжа і прадуктаў яго пераапрацоўкі, а таксама заражаная тара, якая ў іх знаходзіцца, павінна быць ачышчана, прадэзынфэкцыравана ў адпаведнасьці з арт. 1 гэтай пастановы да 1 ліпеня 1928 г. Пералічаныя-ж памяшканьні і тара, апа-

рожненыя ад збожжа і не заражаныя шкоднікамі, павінны быць ачышчаны не пазьней 15 чэрвеня 1928 г.

*Увага* 1. Памяшканьні, якія ня могуць быць абеззаражаны да паказаных тэрмінаў з прычыны тэхнічных умоў або з прычыны таго, што яны завалены збожжам і ня могуць быць у паказаны тэрмін апарожнены ад яго, павінны быць абеззаражаны зараз-жа пасьля іх апаражненьня, але не пазьней 1 жніўня 1928 году.

*Увага* 2. Дзейнічаючыя млыны і крупадзёркі, а таксама саладоўні півоварняў могуць ачышчацца і, калі трэба, дэзынфэкцыравацца ў час астаноўкі іх для рамонту, у кожным выпадку павінны быць ачышчаны і прадэзынфэкцыраваны да пачатку паступленьня на іх партыяў новага ўраджаю і не пазьней 15 жніўня 1928 г.

*Увага* 3. Купля і продаж заражанай тары забараняецца.

9. Усе ўласьнікі складавых памяшканьняў павінны даваць Дзяржаўнай Збожжавай Інспэкцыі, паводле ўстаноўленай формы, зьвесткі аб становішчы сваіх памяшканьняў ў наступныя тэрміны —15 ліпеня і 15 верасьня 1928 г.

10. Збожжа можа ссыпацца ў склады толькі пасьля правядзеньня ў іх, паводле гэтай інструкцыі, работ па абеззаражваньні.

*Увага.* Для атрыманьня дазволу на ссыпку збожжа, ўласьнікі складаў выклікаюць Дзяржаўную Збожжавую Інспэкцыю для абгляду складаў, пры чым за інспэктаваньне іх і выдачу пасьведчаньняў павінна брацца плата, паводле існуючай таксы збораў. Выняткі з гэтага правіла могуць дазваляцца толькі ў дачыненьні да асноўных загатоўшчыкаў, калі Збожжавая Інспэкцыя не зьяўляецца на выклік, пры чым у такіх выпадках адказнасьць за належны стан абеззаражаных складаў ускладаецца на гаспадароў такіх.

11. За парушэньне гэтай пастановы службовыя асобы прыцягваюцца да адказнасьці паводле 1 часткі арт. 107 і 1 часткі арт. 108 Крымінальнага Кодэксу, а прыватныя асобы—у адміністрацыйным парадку, паводле пастановы адпаведнага акруговага выканаўчага камітэту на падставе палажэньня аб парадку пакараньня за парушэньне абавязковых пастаноў.

12. Нагляд за выкананьнем гэтай пастановы ў межах, устаноўленых адпаведнымі заканапалажэньнямі, правіламі і інструкцыямі, ўскладаецца на органы Дзяржаўнай Збожжавай Інспэкцыі і Народнага Камісарыяту Земляробства.

13. З часу выданьня гэтай пастановы ўсе раней выданыя пастановы пра захады змаганьня з сьвірнавымі шкоднікамі трацяць сілу.

Нам. Народнага Камісара Гандлю БССР **М. Брыскін.**

Нам. Народнага Кімасара Земляробства БССР **Я. Валодзька.**

18 красавіка 1928 г.
№ 39

---

## 25. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

ПРА ЎСТАНАЎЛЕНЬНЕ АДПУСКНЫХ ЦЭН НА ДАХАВАЕ І АЦЫНКОВАНАЕ ЖАЛЕЗА.

На падставе п. п. „м“ і „о“ арт. 4 Часовага Палажэньня аб Народным Камісарыяце Ўнутравага Гандлю БССР, пастановы Народнага Камісарыяту Гандлю СССР за 5 сакавіка 1928 г. і замест свае

пастановы пра ўстанаўленьне гранічных адпускных цэн на дахавае жалеза (разаслана 5 сакавіка 1928 г. № 6792) і для зьмены свае пастановы за 1 чэрвеня 1927 г. № 39 пра ўстанаўленьне гранічных набавак на ацынкаванае жалеза, Народны Камісарыят Гандлю БССР пастанаўляе:

1. Устанавіць на тэрыторыі БССР для ўсіх дзяржаўных, каперацыйных і прыватных гандлючых прадпрыемстваў наступныя гранічныя адпускныя цэны:

## А. На дахавае жалеза уральскіх заводаў.

*(У рублёх за тону).*

| НАЗВА ЖАЛЕЗА | Адпускныя цэны прамысловасьці фр.-ст. назначэн. за гатоўку | Гурт. атпуск. цэны фр. ск. гандл. арган. за гатоўку | Паўгуртовыя адпускн. цэны фр. ск. гандл. арган. за гатоўку | Нарозныя адпуск. цэны фр. скл. гандл. арг. у акруг. цэнтр. | На. озныя адп. цэны гандл. арг. фр.-скл. прадаўцаў інш. пунктах, апроч акруг. цэнтр. |
|---|---|---|---|---|---|
| Жал. дах. 1 г. ( 8 ф.) 3,25 к. | 249—50 | 261 | 270 | 285 | 296 |
| „ „ „ ( 9 ф.) 3,5 к. | 240—50 | 252 | 261 | 275 | 286 |
| „ „ „ (10 ф.) 4 к. | 236 | 247 | 266 | 270 | 280 |
| „ „ „ (11 ф.) 4,5 к. | 227 | 238 | 246 | 260 | 269 |
| „ „ „ (12 ф.) 5 к. | 227 | 238 | 246 | 260 | 269 |
| „ „ 2 г. . . 3,25 к | 240—50 | 252 | 261 | 275 | 286 |
| „ „ „ . . . 3,5 к. | 231—50 | 243 | 251 | 265 | 275 |
| „ „ „ . . . 4 к. | 227 | 238 | 246 | 260 | 269 |
| „ „ „ . . . 4,5 к. | 218 | 229 | 236 | 249 | 259 |
| „ „ „ . . . 5 к. | 218 | 229 | 236 | 249 | 259 |
| „ „ 3 г. . . 3,25 к. | 231—50 | 243 | 251 | 265 | 275 |
| „ „ „ . . . 3,5 к. | 218 | 229 | 236 | 249 | 259 |
| „ „ „ . . . 4 к. | 209 | 219 | 227 | 239 | 248 |
| „ „ „ . . . 4,5 к. | 200 | 210 | 217 | 229 | 237 |
| „ „ „ . . . 5 к. | 200 | 210 | 217 | 229 | 237 |
| „ „ 4 г. . . 3,25 к. | 218 | 229 | 236 | 249 | 259 |
| „ „ „ . . . 3,5 к. | 204—50 | 214 | 222 | 234 | 242 |
| „ „ „ . . . 4 к. | 195—80 | 204 | 212 | 223 | 231 |
| „ „ „ . . . 4,5 к. | 182 | 191 | 197 | 208 | 215 |
| „ „ „ . . . 5 к. | 182 | 191 | 197 | 208 | 215 |

## Б. На ацынкованае жалеза.

*(У рублёх за тону).*

| НАЗВА ЖАЛЕЗА | Адпускныя цэны прамысловасьці фр.-ст. назначэньня за гатоўку | Гуртовыя адпуск. цэны фр.-склад гандл. арган. за гатоўку | Паўгуртов. адпускн. цэны фр.-скл. ганд. арг. за гатоўку | Нарозныя адпуск. цэны фр.-скл. гандлёв. арг. у акр. цэнтр. | Нарозн. адпускн. цэны гандл. арг. фр.-ск. прадаўца ў інш. пунктах, апроч акр. цэнтр. |
|---|---|---|---|---|---|
| Ацынкованае жалеза. | | | | | |
| 1 г. ( 8 ф.) 3,25 к. | 453 | 473 | 491 | 521 | 542 |
| „ „ ( 9 ф.) 3,5 к. | 372 | 389 | 403 | 438 | 445 |
| „ „ (10 ф.) 4 к. | 363 | 380 | 393 | 427 | 434 |
| „ „ (11 ф.) 4,5 к. | 349—50 | 366 | 379 | 402 | 418 |
| „ „ (12 ф.) 5 к. | 345 | 361 | 374 | 397 | 413 |
| 2 г. . . . 3,25 к. | 435 | 455 | 471 | 500 | 521 |
| „ „ . . . 3,5 к. | 354 | 370 | 384 | 407 | 424 |
| „ „ . . . 4 к. | 345 | 361 | 374 | 397 | 413 |
| „ „ . . . 4,5 к. | 331—50 | 347 | 359 | 384 | 396 |
| „ „ . . . 5 к. | 327 | 343 | 354 | 376 | 391 |
| 3 г. . . . 3,25 к. | 403—50 | 422 | 438 | 464 | 483 |
| „ „ . . . 3,5 к. | 322—50 | 338 | 350 | 371 | 386 |
| „ „ . . . 4 к. | 313—50 | 328 | 340 | 360 | 375 |
| „ „ . . . 4,5 к. | 300 | 314 | 325 | 345 | 359 |
| „ „ . . . 5 к. | 295—50 | 309 | 320 | 340 | 353 |
| 4 г. . . . 3,25 к. | 385—50 | 403 | 418 | 443 | 461 |
| „ „ . . . 3,5 к. | 304—50 | 319 | 330 | 350 | 364 |
| „ „ . . . 4 к. | 295—50 | 310 | 320 | 340 | 353 |
| „ „ . . . 4,5 к. | 282 | 295 | 306 | 324 | 337 |
| „ „ . . . 5 к. | 277—50 | 291 | 301 | 319 | 332 |

*Увага* 1. Паўгуртовая цана на дахавае чорнае жалеза для Клімавіч, Слуцку, Рэчыцы, Мозыра і Барысава павялічваецца на 8 р. на тону за кошт унутрыраённых перавозак.

*Увага* 2. Для ўсіх акруговых гарадоў і для Барысава і Рэчыцы, апроч Менску, Віцебску і Гомеля, нарозная цана павялічваецца на 10 р. на тону за кошт атрыманьня непаўнагрузнымі вагонамі альбо ўнутрыраённых перавозак.

*Увага* 3. На дахавае жалеза паўднёвых заводаў для ўсіх відаў продажу адпускныя цэны зьмяншаюцца для Гомельскай акругі на 12 р. на тону, а для іншых акруг 11 р. на тону.

*Увага* 4. Устаноўленыя цэны на ацынкаванае жалеза для ўсіх відаў гандлю ва ўсіх акруговых гарадох, апроч Гомеля, Менску і Віцебску, павялічваюцца на 16 р. на тону за кошт унутрыраённых перавозак.

*Увага* 5. Пры продажы дахавага і ацынкаванага жалеза „У іншых пунктах“ да устаноўленых цэн даецца фактычны кошт правозу ад месца закупкі паўгуртовай арганізацыі да месца рэалізацыі.

*Увага* 6. Пры продажы дахавага ацынкаванага жалеза ў крэдыт пры гуртовым і паўгуртовым продажы да ўстаноўленых цэн дадаецца фактычны кошт крэдыту.

2. Устанавіць наступныя нормы гурту, паўгурту і нарознасьці для куплі продажу дахавага і ацынкаванага жалеза:

| | Дахавае | Ацынкаванае |
|---|---|---|
| Гуртавы продаж | Больш 4-х тон | Больш 1 тоны |
| Паўгуртовы продаж | Ад 0,3 да 4 тон | Ад 0,1 да 1 тоны |
| Нарозны продаж | Менш 0,3 тон | Менш 0,1 тоны |

*Увага.* Усякія продажы дзяржаўным і каперацыйным арганізацыям, што гандлююць у сельскіх мясцовасьцях, у разьмеры менш нормаў, устаноўленых для паўгуртовага продажу, робіцца паводле паўгуртовых цэн.

3. Запрапанаваць дзяржаўным, каперацыйным і прыватных гандлюючым прадпрыемствам вывешваць устаноўленыя цэны у сваіх гандлёвых памяшканьнях.

4. Акруговыя інспэктары гандлю на працягу двух тыдняў павінны ўстанавіць гранічныя адпускныя цэны для сельскіх мясцовасьцяй.

5. Гэтая пастанова ўваходзіць у сілу для паўгуртовага гандлю з 15 красавіка, а для нарознага гандлю з 1-га мая 1928 г.

6. Вінаватыя ў парушэньні пункту 1-3 гэтай пастановы прыцягваюцца да адказнасьці паводле арт. 141 Кр. Код.

Нам. Народнага Камісарыяту Гандлю БССР **М. Брыскін.**

Сакратар Народнага Камісара Гандлю БССР **К. Верамейчык.**

26 красавіка 1928 г.
№ 40.

Цана 30 кап.